
Лаўрэаты «Гедройца»➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Фільм пра «Канцэрт...»➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 40 (3308) Год LXIV Беласток, 6 кастрычніка 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

**IV З'езд выпускнікоў і святкаванне 70-гадовага юбілею Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы адбыліся 28 верасня, а з'езд прадоўжыўся яшчэ 29 верасня і закончыўся інтэграцыйным спатканнем каля вогнішча. Прыбыло на яго амаль 370 выпускнікоў, якія вучобу ў Гайнаўскім белліцэі закончылі ў 1953-2010 гадах. Многія ўдзельнікі з'езда вучыліся яшчэ ў старым прытульным драўляным будынку школы і асабліва цёпла яго ўспаміналі. Аднак найбольш сентыментальнымі былі сустрэчы са школьнымі сябрамі, якія, бывала, вельмі даўно не бачыліся.**




школы. Гэты фільм мае быць папоўнены выказваннямі ўдзельнікаў сёлетняга з'езда. Была паказана таксама мультымедыйная прэзентацыя аб гісторыі Гайнаўскага белліцэя і поспехах школы. З нагоды святкавання 70-гадовага юбілею вучні белліцэя на працягу календарнага года знаёміліся з гісторыяй сваёй школы. Гайнаўскі белліцэй пачаў дзейнічаць у 1949 годзе. У 1964 годзе ў школе з'явіўся сцяг белліцэя, а ў 1993 годзе школа атрымала новы мураваны будынак. У 1999-2019 гадах пры ліцэі працавала беларуская гімназія. Пасля спынення яе дзейнасці змянілася назва школы: Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы атрымаў назву Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мове. З нагоды юбілею ў белліцэі былі арганізаваны выстава, прымеркаваная да гісторыі школы і экспазіцыя, прысвечаная тром папярэднім з'ездам выпускнікоў.

# Годная сустрэча абсальвентаў

Святкаванні пачаліся з малебна, які 27 верасня ў прысутнасці ўдзельнікаў з'езда і настаўнікаў белліцэя быў адслужаны за выпускнікоў, вучняў, настаўнікаў і працаўнікоў школы ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, а малітвы ўзначаліў гайнаўскі епіскап Павел. У асноўны дзень IV З'езда выпускнікоў, які наладзіў спецыяльна створаны аргкамітэт з'езда і святкавання юбілею, урачыстая сустрэча адбылася ў спартыўнай зале з удзелам амаль 370 выпускнікоў белліцэя, часткі цяперашніх вучняў, настаўнікаў і запрошаных гасцей. Сабраных прывітаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук. Сярод запрошаных гасцей былі надзвычайны паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у РП Уладзімір Чушаў, гайнаўскі епіскап Павел і святары, віцэ-куратар Куратора асветы ў Беластоку Альжбета Камінская, стараста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка і старшыня Рады Гайнаўскага павета, выпускнік, шматгадовы дырэктар, а зараз настаўнік Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко, віцэ-бургамістр Гайнаўкі Ірыней Раман Кендысь, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк, дырэктар Падставовай школы № 3 у Бельску-Падляшскім Пётр Нікалаюк-Стасюк, дырэктары школ з літоўскай мовай навучання, з якімі супрацоўнічае Гайнаўскі белліцэй, старшыня Бацькоўскага камітэта белліцэя і прадстаўніца Белавежскага нацыянальнага парку Эва Мароз-Кэчынская, дырэктары звышпачатковых і пачатковых школ з Гайнаўкі і гмін Гайнаўскага павета, прадстаўнікі мундзірных службаў і дырэктары шматлікіх устаноў. Частка са згаданых гасцей павіншавала Гайнаўскі белліцэй з юбілеем, пажадала школе поспехаў на будучыню і ўдалага правядзення з'езда. Зачытвалі яны і перадавалі на рукі дырэктара Ігара Лукашука віншавальныя граматы і падарункі.

— Увесь час паказваем маладым людзям як жыць, як здабываць веды, як шанаваць сваю спадчыну, як ісці праз жыццё з высока паднятымі галовамі, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук.

Звярнуў ён увагу на людзей, якія стваралі і прычыніліся да развіцця Гайнаўскага





Заслужаныя настаўнікі

белліцэя, на ахвярнасць настаўнікаў, поспехі белліцэістаў у розных галінах і станоўчыя рэзультаты супрацоўніцтва белліцэя са школамі нацыянальных меншасцей і іншымі ўстановамі. Вучні Гайнаўскага белліцэя часта перамагалі ў алімпіядах і прадметных конкурсах, у тым ліку ў Алімпіядзе па беларускай мове і ў беларускамоўных конкурсах. Дзякуючы ангажаванасці і цяжкай працы настаўнікаў і вучняў, белліцэісты наогул добра спраўляліся з матуральнымі экзаменамі і прадаўжалі вучобу ў вышэйшых навучальных установах. Многія з гэтых паказчыкаў і вельмі добрыя ўмовы адукацыі ў вялікім школьным будынку і спартыўнай зале, абсталяванымі па-сучаснаму, прычыніліся да таго, што Гайнаўскаму белліцэю была прысвоена адзнака «Сярэбраная школа». Сабраным у спартыўнай зале былі запрэзентаваны фільм пра сучасны Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы і стужка аб мінулым белліцэя, у якой выказваліся выпускнікі

Ладзіліся ў ліцэі таксама сустрэчы вучняў з выпускнікамі белліцэя і прадбачваецца прадаўжэнне гэтай ініцыятывы.

Пра ход IV З'езда выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы гаварыў старшыня яго аргкамітэта, былы настаўнік гісторыі белліцэя Яўген Янчук, інфармавалі вядучыя мерапрыемства, выпускнікі белліцэя, настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі і Ілона Карпюк-Дамброўская. Папрасіла яна, каб ад імя выпускнікоў выступіў таксама былы настаўнік гісторыі Гайнаўскага белліцэя Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў РП, які ўзначальвае дзейнасць Беларускага Радыё Рацыя і Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва».

— Наш Беларускі ліцэй у Гайнаўцы даў кожнаму з нас шанц пайсці ў свет і стаць людзьмі годнымі сваіх прафесій. Павінны мы памятаць адкуль мы выйшлі і якая наша тоеснасць, каб магчы гаварыць пра сваю будучыню. Перапісы паказваюць, што нас, беларусаў, штораз менш. Вучоба ў белліцэі абавязвае і важна, каб у наступных перапісах насельніцтва запісаліся мы беларусамі. Я закончыў ліцэй 35 гадоў таму і маёй марай было вярнуцца на працу ў Гайнаўскі белліцэй і яна здзейснілася. Я адчуваў радасць, калі быў настаўнікам белліцэя і адчуваю радасць у час святкаванняў. Веды ёсць сілай да перамогі і Беларускі ліцэй у Гайнаўцы пераможа ведамі наконт усяго — навукі і беларускай культуры. Нас у Гайнаўскім белліцэі навучылі чытаць, пісаць і думаць па-беларуску і важна, каб надалей нам чытаць па-беларуску. Мы павінны быць свядомымі беларусамі на многія стагоддзі. Мы тут былі, ёсць і будзем, — сказаў да сабраных у спартыўнай зале старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, ураджэнец Доўгага Броду.

На святкаванне прыбыў таксама старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Лукаш Леанюк і старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, які са сцэны павіншаваў Гайнаўскі белліцэй з юбілеем.

чытайце ☞ 04



9 770546 196017



# Парк

Выпала мне нядаўна заначаваць у Мінску. Ну, і вырашыў, нарэшце, спаткацца са старым сябрам. Жыццё такое, што нават стэлефаноўваемся рэдка. А ўжо бачымся, дык і не ўспомніць, калі гэта было апошні раз.

Акурат выпала мне начаваць недалёка ад яго дома. Мой гатэль па адзін бок парку, яго дом па другі. А прайсціся па восеньскім парку, асабліва калі дзень выдаўся сухі і цёплы, праблем не складае.

Заседзеўся я ў яго дапазна. Амаль што не да раніцы. Ну, але ўсяго не перагаворыш. Пара і развітвацца. Таксі браць не захацеў, цягнула прайсціся па парку. Ноч выдалася цёплай, парк адчынены. Неяк непрывычна ажно. Па парках я бадзяўся апошнія разы па начах ужо не помню калі. І тады, напрыканцы васьмідзясятых і на пачатку дзевяностых, бадзяцца не было зусім бяспечна. І ў нос можна было дастаць, і ў вуха. Сам мог каму заехаць, і як з'яўлялася міліцыя, то проста выганяла парушальнікаў парадку з парку, калі тыя не вельмі ўпіраліся. Хапаць людзей не было асаблівай моды. Ды і людзі тады маглі адбіць у міліцыянера чалавека, якога, на іх думку, хапілі ні за што. Таму, напэўна, і не хапала міліцыя людзей так нахабна, бо самі баяліся нарвацца.

А закаханыя маладыя парачкі дык гулялі ў тыя часы паўсюдна і аж да раніцы. Ды што там маладыя. Старэнькія міла сядзелі на лавачках. А юнакі з гітарамі ў малых і вялікіх кампаніях ажно са шкуры вылазілі, каб спадабацца дзяўчатам. Ды і дзяўчаты выкручваліся як умелі. Ажно вочы ў хлопцаў разляталіся.

Ну і сяброўскія, ці проста прыяцельскія кампаніі не саступалі па колькасці іншым. Дзесьці ў шахматы на лавачках гулялі, хто ў даміно, хто ў карты. Недзе чарку за каўнер кулялі. А як жа ж! Не без гэтага. Парк усё ж. А парк — месца для адпачынку. Ну а адпачынак кожны па-свойму разумее.

Бывала, што і пад лавачкамі самыя ахвочыя да гарэлкі начавалі. Ну а што тут такога?! Людзі — усе розныя. І здароўе ў іх рознае. А п'юць звычайна аднолькава — па поўнай. Вось некаторым на сон больш часу і трэба, каб сілы аднавіць. І яны гэты час на дарогу дахаты не гублялі. Адпачывалі прама там.

Ну, гэта я вам пра былыя часы распавёў. А зараз у вялікім сталічным парку я не ўбачыў аніводнага чалавека. Ноч была — проста цуд! Цёпла, суха, прыемна... Гарэлі ліхтары. Сумавалі пустыя лавачкі. І аніводнай жывой душы. Не сядзяць маладыя дзяўчаты на каленях у каханых хлопцаў, не цалуюцца, не абдымаюцца, не гуляюць у даміно мужчыны, не граюць пявучыя гітары... Нават алкаголікаў няма! Ні на лаўках, ні пад імі... Пуста і жудасна...

Я сам родам з вёскі. Колькі ў нас там людзей было?! Раз-два і палічыў усіх. Ну але каб у такую ноч было пуста, каб не шапталіся па задворках закаханыя, каб не збіралася ў школьным садзе моладзь... А тут, у Мінску, у сталіцы Беларусі, ажно два мільёны чалавек без малога жыве! У галаве такая лічба не ўкладваецца! І цалкам пусты парк у такую цудоўную восеньскую ноч...

Ну вось, хіба, і адказ на ўсе пытанні. Спяць людзі. Спіць наш народ. Дарэчы, не толькі ноччу. Проста спіць. Тыя, што прачнуліся, стаяць з бел-чырвона-белымі сцягамі, і не могуць зразумець такую нізкую актыўнасць астатніх. А адказ да банальнага просты. Наш народ спіць. Стаміўся ён, адсыпаецца. Вось прачнецца, і тады паробіць усе справы. А прачнецца абавязкова. Захоча есці, і прачнецца. Або сходзіць куды захоча. Або проста ўжо выспіцца нарэшце! Ну колькі ж можна ўжо спаць?!

Вось калі вы будзеце ісці па парку вашага горада цудоўным восеньскім вечарам, або нават уначы, і на кожнай лавачцы будзеце бачыць закаханых, якія шэпчуцца, або пажылых, якія адпачываюць, або любых людзей, якія нешта робяць, то ведайце, час прыйшоў. Народ прачнуўся. А пакуль што застаецца або заспяваць яму калыханку па-беларуску, або актыўна будзіць, без слоў, а толькі гукамі ды стукамі, або пачакаць, пакуль сам прачнецца. Бо сон, кажуць, рэч патрэбная. Падчас сну правільныя рашэнні прымае розум.

І часцей гуляйце па начах у парку! Дыхаецца добра, і думаецца неардынарна. Я вось, пакуль па парку не прайшоўся ўначы, так ні разу не думаў, як зараз напісаў. І не гаварыце, што я напісаў абы-што! Прайдзіцеся спачатку ўначы па парку.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Перажоўванне інфармацыі



Малюнак першы: я ляжу перад тэлевізарам увесь дзень і перажоўваю інфармацыі, якія ў гэты час усвідроўваюцца ў мой мозг. Нічагуткі не разумею. Мая стрававальная сістэма... прабачце, інтэлектуальная не ў стане асэнсаваць лішак гэтых інфармацый. Калі б яны былі хаця б паслядоўнымі, неаспрэчнымі... Па большай частцы яны — салома немагчымая для пераварвання. Дык чаму я дазваляю карміць сябе імі? І я выкінуў тэлевізар.

Малюнак другі: Статак кароў вылежваецца на лузе і перажоўвае раней з'едзеную траву. Я гляджу на іх са спачуваннем, хоць, бачачы, наколькі яны ўдзельнічаюць у жаванні, пытаюся ў сябе: ці знойдзецца ў каровы час для разважанняў? Што ж, карова на гэта не мае часу. Сэнс яе існавання заключаецца ў жаванні травы. Уважлівае назіранне даказвае, што толькі на гэтую дзейнасць карова праводзіць 10 гадзін у дзень, робячы больш за 30 тысяч адпаведных рухаў сківіц. Няма часу на што-небудзь яшчэ. Толькі на перажоўванне. Наколькі я быў ад іх розным, калі гадзінамі вырачваўся ў тэлевізар?

Прызнаюся, знайсці аналогію паміж чалавекам-маніякам тэлебачання і каровай — вельмі рызыкоўна. Хтосьці можа пакрыўдзіцца на такое... Аднак я б аддаў перавагу таму, каб усе схацелі глядзець адзін на аднаго з прыязнай дыстанцыяй і самаіроніяй. На разумныя разважанні ніколі не позна.

Знаходжанне аналогіі ў розных галінах заўсёды з'яўляецца рызыкоўным. Асабліва, калі гэта тычыцца палітыкі і гісторыі — якія, несумненна, маюць агульнае перапляценне. Аднак лёгка быць смешным, калі занадта свабодна пераносіш факты з адной вобласці ў іншую; калі грэбуеш часавымі рамкамі, якія праз свае звычаі, цяперашнія палітычныя адносіны і г.д. высвятляюць іх кантэкстны сэнс. Рызыкоўна параўноўваць парламенцкія выбары, якія чакаюць палякаў у кастрычніку, з маральным выбарам грамадстваў, якія змагаюцца з голадам. Бо ў абодвух выпадках голад — з аднаго боку, палітычны ці ідэалагічнага характару, з другога — выключна фізіялагічны — спараджае такія, а не іншыя наступствы, якія фармуюць альбо будуць фарміраваць будучыню. Агульная сфера для іх — калектыўная цяга альбо да захавання статус-кво цяперашняй улады, альбо да яе адмены, альбо да сілкавання галодных і падтрымання існуючага парадку, альбо да галоднага бунту, які прынёс бы радыкальныя палітычныя змены. Менавіта таму часам варта аслабіць метадалагічную строгасць, каб пагля дзець на пэўныя з'явы з пэўнай адлегласці. Што тычыцца палітычнага боку, то гэта, несумненна, з іранічнага аддалення, не азначае, што ён не клапатлівы. Калі гаворка ідзе пра фізіялагічны голад, які перапаўняе насельніцтва, то з гістарычнага пункту гледжання бачым, што гэтая з'ява рэзка паўтараецца і аднолькава мабільная зараз і ў мінулым. За выключэннем таго, што геаграфія голаду пастаянна мяняецца, і яго межы нязменна перамяшчаюцца з Еўропы ў Афрыку і на поўдзень зямнога шара наогул. Але гэта не азначае, што яе міграцыя ніколі не зменіць кірунак. Таму я прывяду факт, спасылаючыся на сучаснага французскага гісторыка Фернана Брадэля. Ён адбыўся ў 1573 г. у горадзе Труа, у перыяд паўсюднага голаду, які ў чарговы раз ударыў па Францыі, выклікаючы сапраўднае ўварванне не толькі ў Труа, але і ў іншыя гарады бедных сялян і блукаючых жабракоў, часта паршывых ці хворых, просячых ежу. Гэта была сур'ёзная праблема для багатых і сытых мяшчан. Баючыся масавых беспарадкаў і чумы, яны вырашылі, што ўсе, хто прыбыў, «свае» жабракі і мала лепшыя за іх беднякі, будуць выгнаны. Аднак з-за іх колькасці пра жорсткае высяленне не было гаворкі. Так і знайшлі на іх спосаб, абвясціўшы, што назаўтра ля адных з гарадскіх варот кожны з маючых патрэбу атрымае буханку хлеба і дадаткова штуку срэбра. Абяцаныя ахвяраванні былі ўручаны, кожнага атрымальніка выводзілі адразу за вароты, і «калі яны зачынілася за апошнім, ім сказалі з вышыні сцен, каб яны пайшлі з Богам шукаць шчасця ў іншым месцы. Калі шукаць аналогію, то разумная хітрасць з Труа мала чым адрозніваецца ад любых выбарчых абяцанняў сучасных палітыкаў, нават ад тых абяцанняў, якія будуць выкананы. А няхай мараль чэрпае з гэтага кожны па сваім меркаванні.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Гайнаўская памяць

*«Люблю я Гайнаўшчыну нашу, яе не можна не любіць,*
*Тут кожная сцежка мне знаёма, тут пражываюць землякі.*
*Тут пражывалі нашы дзяды і дзедавы дзяды тут ляжаць,*
*Яны жылі і гаравалі, цяпер ляжаць там дзе крыжы».*

Словы менавіта гэтай песні, напісанай настаўнікам беларускай мовы Васілём Сакоўскім, абавязкова павінны стаць гімнам нашай школы, значыць, беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Заспяваная калектывам «Дубіны» на сцэне сакавітымі галасамі Марыёлі Пшыходскай і Дзмітрыя Ціханюка дала такую колькасць дрыжыкаў і слёз, што проста не расказаць. Гэтая песня, праўда, пра той куток падляшскай прасторы, дзе беларускасць кампактна зліваецца з прыродна-хрысціянскім успрыманнем свету. Такім чынам душы і сэрцы гатовыя ёсць да здзяйснення выклікаў, якія не пад сілу іншым. Штодзённая працавітасць — таксама неабходная справа для ліцэйскага і дарослага ўзросту.

Спадар Васіль, прыміце самыя шчырыя прывітанні і словы падзякі за Вашу настаўніцкую, грамадскую і журналісцкую працу разам з «Нівай». Многія ўдзельнікі з'езда чакалі Вас у школе, каб падзякаваць Вам асабіста, там, на месцы, і прасілі, каб у «Ніве» абавязкова гэта зрабіць. Робім гэта з найвялікшай прыемнасцю. Таксама не забываем усіх тых настаўнікаў, якія былі прысутнымі, і тых адсутных, бо без іх труду не было б вучнёўскага цуду. Для памяці школы і моладзі абавязкова павінны быць паказаны складанасці саракавых гадоў, калі настаўнікі школы былі ліквідаваны польскім падполлем, ці арыштаваны савецкімі органамі. Нельга цяжкіх хвілін, якія мацуюць усё грамадства, засейваць травой забыцця.

Для мяне асабіста гонарам і ўзрушэннем было тое, што нашу класную частку з'езда вяла мая ліцэйская выхавацелька Зінаіда Петручук. Ейныя разважанні пра чалавека і школу паказваюць той інтэлектуальна-эмацыйны патэнцыял, які быў перададзены ёю усім вучням. І менавіта выходзячы за муры школы пасля чатырох гадоў ліцэя, мы атрымлівалі атэстат сталасці. Пані прафесар Петручук, нягледзячы на свае праблемы са здароўем, паказала нам і зараз не менш важны ўрок жыцця. Той урок, які, мабыць, чакае нас з неверагоднымі выпрабаваннямі. Але сіла спакою і рэфлексіі на фоне скарацечных гадоў дае пачуццё задумлівай скрытай усмешкі. Менавіта ў час школьнай, класнай сустрэчы, калі даведваешся пра лёс і гісторыю абітурыентаў, можаш толькі ганарыцца, якімі шляхамі пайшло наша жыццё. Жанчыны — лекары, медсёстры, настаўніцы, фінансісткі, навукоўцы, самастойныя бізнесвумен, актыўныя пенсіянеркі; мужчыны са старэйшых гадоў — гэта вайскоўцы, інжынеры, навукоўцы, лекары, самаўрадаўцы, бізнесоўцы і шмат хто яшчэ — усіх не пералічыць. Ну і для нас самае галоўнае гэта нашы шматгадовыя чытачы, карэспандэнты, пісьменнікі, якія ствараюць на роднай мове. Зараз у рэдакцыі «Нівы» працуюць тры выпускнікі гайнаўскага ліцэя: ніжэйпадпісаны, Ганна Кандрацюк — журналістка і пісьменніца, Аляксандр Вярбіцкі — журналіст. На нашых старонках друкуецца таксама выпускнік Міхал Андрасюк, які на мінулым тыдні стаў лаўрэатам найбольш прэстыжнай узнагароды ў галіне прозы — «Прэміі Гедройца». І шмат іншых выпускнікоў нашага ліцэя пісала нам словамі і ведамі набытымі ў час вучобы.

Самай цікавай для мяне жамчужынай ліцэйскай рэчаіснасці быў наш моўны кампанент школьнага калідора. Тут, як у тым квяцістым агародзе, пераліваліся гукі і словы прыгажосці нашых гаворак. Я з-пад пушчы з тымі з Чаромхі і Кляшчэляў увахodзілі ў моўны і ментальны кампанент з людзьмі з Нарвы, Нараўкі, Белавежы. Моўная, беларуская Вавілонская вежа ў чыстай форме ўзбагачала нас узаемна. У мой ліцэйскі час аніводныя лінгвістычныя экспедыцыі не былі нам патрэбныя. Мелі мы іх проста ў адным месцы. Затое вельмі пазнавальнымі былі паездкі да сяброў і сябровак у іншыя вёскі, дзе прываблівасці дарослага свету прыцягвалі нас да сябе штораз больш і больш, асабліва ў дзявоча-юнацкім плане. Таму дзякуй Табе, ліцэй, за ўсё і прабач нам, грэшнікам, што сваім настаўнікам дапякалі замнога.

**Яўген ВАПА**

# Пад знакам белай ружы

Тэкст і фота **Віктара САЗОНАВА**

**Белую ружу больш за два тыдні да апісваных зараз падзей у Гародню з Мінска прывёз галоўны рэдактар „Нівы" Яўген Вапа. Ажно дзясятага верасня. У той дзень ён атрымаў яе як выдавец, калі прадстаўляў у беларускай сталіцы на ўрачыстасцях па ўручэнні прэміі Наталлі Арсенневай вядомую беларускую паэтку з Польшчы Надзею Артымовіч.**




Ружа — прыгожая кветка, але паляжаўшы ў цёплай машыне пачала вянць. Кветкі яны такія. Капрызныя, што не дай Божа! Як што не па іхняму, то адразу пачынаюць вянуць...

— Пастаў яе ў вазу, — сказаў Яўген, калі зайшлі ў гарадзенскі офіс. — Можа яшчэ возьмецца.

З вазамі для кветак на нашым офісе заўсёды была праблема. Таму я паставіў яе ў больш-менш падобную на вазу пасудзіну, якой аказалася бутэлька з-пад віскі „Glen Russell". Там ружа ўтульна размясцілася на падаконніку, побач з недагулянай шахматнай партыяй, якую мы даўно разыгралі з Валодзем Хільмановічам і ніяк скончыць не маглі. Шахматная дошка па колерах вельмі пасавала да этыкеткі на бутэльцы. Ружа пасавала да ўсяго...

Вось з такім новым аздабленнем офіса я і ўзяўся пасля ад'езду Яўгена ў Беласток пісаць артыкул у „Ніву" пра тое, як адбываліся мінскія ўрачыстасці. Не забыўся згадаць, што ў абодва шорт-лісты прэмій і Наталлі Арсенневай, і Ежы Гедройца, патрапілі падляшскія творцы — Надзея Артымовіч і Міхал Андрасюк. І як стары „нівец", і даўнішні заўзятар творчасці Андрасюка пажадаў я Міхасю дваццаць пятага верасня на ўручэнні прэміі Ежы Гедройца поспехаў з яго ўжо нашумелай „Поўняй", якая як і „Краявід з невідочнай памылкай" Надзеі Артымовіч выйшла ў выдавецтве «Праграмная рада тыднёвіка „Ніва"» ў Беластоку

А ружа нечакана ажыла. Выпрасталася, распусцілася і зззяннем сваіх белых пялёсткаў у адлюстраванні святла начной Гародні стала нагадваць поўню...

Я ўбачыў у гэтай метамарфозе добры знак, але гаварыць пра тое нікому не стаў. Каб не сурочыць...

Неўзабаве надышло і дваццаць пятае верасня. Позіркі беларускай літаратурнай супольнасці скіраваліся ў сталіцу, дзе ўжо ўсё было падрыхтавана да ўручэння ўзнагарод. Акрамя галоўнай прэміі імя Ежы Гедройца, заснаванай Беларускім ПЭН-Цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Польскім інстытутам у Мінску за найлепшую кнігу ў жанры мастацкай і дакументальнай прозы, узнагароджваліся і тыя творцы, якія занялі ганаровыя другое і трэцяе месцы. І яшчэ з'явілася адна ўзнагарода — „Выбар Алексіевіч" для таго, каго выбера сама нобелеўская лаўрэатка па літаратуры ад Беларусі.

Ну а ў завяршальны шторт-ліст Прэміі Гедройца ўвайшлі шэсць твораў беларускамоўных празаікаў, што само па сабе ўжо з'яўляецца пэўнай узнагародай для кожнага. Гэта: „Поўня" Міхала Андрасюка, „Садомская яблыня" Алены Брава, „Часам панкі паміраюць" Сяргея Календы, „Libido" Іллі Сіна, „Вяртанне Ліліт" Юліі Шаровай і „Падарожжа ў БНР" Сяргея Шупы.

Беластоцкі дэсант з двух чалавек — Яўгена Вапы і Міхася Андрасюка высадзіўся на гарадзенскім аўтавакзале на дзесяць хвілін раней, чым тое прадугледжваў расклад. Так хутка даймчаў іх бусік з Беластока, як не робяць тыя бусікі ніколі. Я і ў гэтым угледзеў добры знак, але прамаўчаў. Каб не сурочыць...


Злева: Алена Макоўская, Міхась Андрасюк, Барыс Пятровіч, Яўген Вапа, Лявон Баршчэўскі, Віктар Сазонаў



Хіба ўпершыню ў жыцці чакалі мяне, а не я. Бо я заўсёды стараюся быць пунктуальным. Але як я праз акно свайго «SEAT Alhambra» ўбачыў беластоцкіх гасцей, то пашкадаваў, што не прыехаў яшчэ пазней. Хлопцы так заўзята абмяркоўвалі літаратурныя тэмы, што і маю машыну не адразу заўважылі. Нібыта ехалі сюды ў розных аўтобусах і не мелі часу на гаворку.

А я тады добра зразумеў, што калі чаго не прачытаў з таго, што будзе прадстаўлена на ўрачыстасцях, або ўвогуле прапусціў што новае ў беларускай літаратуры, то пакуль даедзем да Мінска ўсе прабелы ў гэтым пытанні будуць запоўненыя непасрэдна ад намінанта на прэмію і яго выдаўца.

А паколькі і мне ў той момант так моцна захацелася і самому ім штосьці сказаць пра беларускую літаратуру, падзяліцца сваімі думкамі, то я адразу пазваніў Андрэю Коцю і папрасіў сесці яго за руль машыны. Бо ў такой узбуджанай ад урачыстасці кампаніі, каб выказаць сваю думку, часамі і рукамі памахаць трэба. А за рулём то не асабліва размахаешся.

Пра ружу я хлопцам сказаў толькі тое, што ёй вельмі спадабаўся віскі „Glen Russell" і з ім яна можа існаваць яшчэ доўга. Хлопцы падумалі і нічога кепскага пра „Glen Russell" не заявілі. Язык не павярнуўся. Хоць і хваліць у той момант не сталі. Усе думкі накіраваны былі на літаратуру. А я пра сапраўднае прадчуванне маўчу, каб не сурочыць. Гэтак жа сама маўчу, як і пра тое, што Яўген Вапа распавядаў пра сваё прадчуванні, калі вярталіся з Мінска мінулы раз, разам з той белай ружай.

— Міша Андрасюк будзе мець другое месца, — заявіў тады ён. — Ён варты і першага, але маю такое прадчуванне, што другое то будзе мець дакладна.

Але зараз Вапа не спяшаўся прыпамінаць сваё прароцтва. Хоць, бачу па вачах, помніць яго. Відаць таксама баіцца, каб не сурочыць. Ну то і я маўчу. Думаю сабе, што ўсё гэта прыпомню па дарозе назад. А зараз трэба развесяліць гасцей. Надта ж яны засяроджаныя. Распавёў анекдот пра маёра. Рагаталі доўга і шчыра.

Зараз той анекдот распісваць не буду. Каб інтрыгу захаваць. А каго вельмі цікавіць, звяртайцеся. Распавяду пры асабістай сустрэчы.

А за акном машыны сваю прозу і паэзію піша беларуская восень. Лісты ў некаторых месцах ужо кранула жаўціня, у некаторых чырвань. Траса М-6 амаль збудаваная, ехаць добра, прыемна. Зрэдку перапыняем размову пра літаратуру і гаворым пра прыроду. Я кажу, што моцна змяніўся клімат. У дзяцінстве лісты ападалі ўжо ў кастрычніку. Цяпер да лістапада трымаюцца. Хіба так некалі і даўней было. Бо чаго б нашы продкі той месяц лістападам назвалі? Усё вяртаецца на колы свае...

чытайце ☞ 10

## Кузаўскі ўспамін (4)

Электрыфікацыя Кузавы пачалася ў пачатках пяцідзясятых гадоў, калі солтысам быў Рыгор Раманчук. Прыпамінаюцца мне пачаткі, калі геадэзісты рабілі памеры. Я працаваў іхнім памочнікам, якому даручылі насіць драўляныя палікі ды межавыя тычкі. Прамежак паміж слупамі раўняўся сорак васьмі метрам. Канчаўся забітым палікам з пазначаным нумарам. Там, дзе вуліца праходзіла па простай лініі, дык адзначаўся адзін слуп, на паваротах ставілі дваяны — слуп з падпорай. Пасля памераў развозілі слупы па вуліцы, затым рабочыя капалі ямкі і ставілі слупы. Удзень працавала некалькі брыгад адначасова. Кожная з іх займалася іншай працай. Абавязкам сялян было забеспячэнне рабочых харчаваннем і начлегам. Не помню зараз, колькі часу доўжылася падрыхтоўка электрычнай лініі, але мантаж абсталявання ўнутры памяшкання па сённяшні дзень стаіць у вачах як жывая карціна. Да нашага дома быў назначаны Баляслаў Гіль, невялікага росту, кволенькі хлапец. У размове пры абедзе выявіў, што ён яшчэ кавалер.

— Дык трэба табе нарачоную падшукаць, — пажартавала наша матуля.

І з гэтага пачалося. У дзядзечкі Міхася Селяха, які пражываў з сям'ёю ў Глупні пры вузкакалейцы, былі чатыры дачкі: Нінка, Надзя, Таня і Вера і чатырох сыноў: Міхась, Лёнік, Генік і Валодзя. Надзя працавала буфетчыцай на станцыі ў Чаромсе. Была гэта сімпатычная прыгажуня, вясёлая ды гаваркая. І матуля рашыла пазнаёміць электраманцёра Болька з Надзяй. Напомніла кавалеру ў час чарговага абеду аб прыгожай сваячцы. Баляславу не трэба было два разы паўтараць. Выходзіў ён з-пад беластоцкай вёскі, быў абжыты з людзьмі, кампанейскі. Аднойчы, пасля работы падаўся на станцыю, каб з сябрамі пакаштаваць чаромхаўскага піва. У гэты ж дзень буфетчыцай працавала Надзя. Маладыя ўжо ў час першай сустрэчы спадабаліся сабе. З таго пачаліся любоўныя спатканні. Электраманцёр Болек Гіль з таго моманту стаў быццам членам сям'і. Маці нашу называў цёткай Оляй, мяне з Віктарам — шваграмі.

У час мантажу абсталявання ў кватэры электраманцёры мелі абавязак устанавіць два пункты штэпсельнай разеткі ў адным памяшканні. «Швагер» устанавіў нам разеткі паводле нашага жадання. На слупах вулічнага асвятлення завешалі «абажуры». Уключальнік электраасвятлення абсталявалі на слупе насупраць кватэры Васіля Раманчука, царкоўнага старасты, якога аднавяскоўцы клікалі „Васільком". Поўнасцю электрыфікацыя закончылася і лямпачкі вулічнага асвятлення замігцелі пры канцы 1952 года. У пазнейшым вынікла праблема з уключэннем вулічнага асвятлення. Для дзецюкоў уключальнік служыў для забавы. Хуліганнё забаўлялася ўключаючы і выключаючы электраток. Затым уключальнік перанеслі ў памяшканне старасты. Дзядуля Васілько не спраўляўся з уключэннем і выключэннем асвятлення, таму на вуліцы ноччу панавала цемра, або ўдзень непатрэбна гарэлі лямпачкі. Канчаткова праблема вулічнага асвятлення вырашылася, калі абсталявалі аўтаматычны выключальнік.

Пасля электрыфікацыі Кузавы Болек Гіль ажаніўся з Надзяй. І мы гулялі на вяселлі. У шасцідзясятых гадах аформіўся ён на працу ў Павятовым праўленні сельскіх гурткоў кінамеханікам. Дэманстраваў па сёлах асветныя і сельскагаспадарчыя фільмы. Швагра Гіля Валодзя Селях аформіў пасля на працу ў вагонным дэпо. Працаваў ён па сваёй прафесіі электраманцёрам па забеспячэнні вагоннага асвятлення. Зараз няма ў жывых ані сястрыцы Надзі, ані швагра Болька Гіля. Адышлі ў вечны спачын. Памёр таксама іхні старэйшы сын Раман. З патомкаў кузаўскага манцёра Баляслава Гіля застаўся сын Кшыштаф.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

1 ☞ працяг

— Гайнаўскі белліцэй закончылі тысячы выпускнікоў і ў час з'езду ёсць магчымасць спаткацца, паразмаўляць. Нашы беларускія ліцэі і ўсё беларускае школьніцтва далі нашым беларусам вельмі многа, бо з белліцэяў ішла беларускасць, — заявіў раней у размове са мной былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя Васіль Сакоўскі.

Звярнуў ён увагу на вельмі добрую атмасферу ў Гайнаўскім і Бельскім белліцэях. Васіль Сакоўскі вучыўся ў Бельскім белліцэі, а ў Гайнаўскім белліцэі працаваў настаўнікам беларускай мовы ажно 35 гадоў. Па прычыне хваробы не мог ён прыбыць на з'езд.

Вельмі цікавай атрымалася мастацкая частка, у час якой займальна запрэзентаваліся белліцэісты. Па-майстэрску спявалі члены «Знічкі», якімі апякуецца мастацкі кіраўнік Паўліна Скепка і выдатна станцавалі члены танцавальнага калектыву, з якімі займаецца мастацкі кіраўнік Вольга Вілюк. Адважна і займальна запрэзентавалі белы спеў белліцэісты, якіх да выступу падрыхтавала Анна Фіёнік, мастацкі кіраўнік студзі-водскай «Жэмэрвы».

Вельмі займальнымі і заадно выклікаючымі ўспаміны былі выступленні выпускнікоў белліцэя ў вакальных і вакальна-інструментальных калектывах. Сярод удзельнікаў з'езда вялікае ажыўленне, а пасля настальгію па мінулым, па часах іх вучобы, выклікала выступленне славутага беларускага калектыву «Дубіны» ў першапачатковым саставе — з протадыяканам Дзімітрыем Ціханюком, Марыёлей Пшыходзкай, Пятром і Уладзімірам Скепкамі. Займальна выканалі яны свае песенныя шэдэўры, што паўсюдна спяваліся ў васьмідзясятых гадах у час сямейных мерапрыемстваў і маладзёвых застолляў. Падобныя эмоцыі выклікала выступленне жаночага калектыву з вядомымі беларускімі песнямі, у якім удала запрэзентаваліся выпускніцы белліцэя, што спявалі ў школьным калектыве. Аднавілі яны сваю дзейнасць у канцы лета і першы раз выступілі на сёлетніх дажынках у Нараўцы, а акампанемент саставіў ім Пятро Скепка. Зусім іншым быў займальны спеў выпускніцы белліцэя Ілоны Карпюк-Дамброўскай. Яна не спыняе спяваць з часоў вучобы ў белліцэі і зараз робіць гэта на вельмі высокім мастацкім узроўні. Па-акцёрску запрэзентаваўся таксама калектыў «Гармонь» з Ласінкі, якім кіруе Марыя Пашко. У калектыве ажно 9 членаў складаюць выпускнікі Гайнаўскага белліцэя і таму рашыліся яны выступіць на з'ездзе. Згаданыя выканаўцы падрыхтавалі перш за ўсё беларускі рэпертуар, які выконвалі ў час вучобы ў белліцэі. Мацей Сніткоўскі — член калектыву «Арт-Пронар» (нядаўна пераўтварыўся ў калектыў «Родны кут») выступіў з багатым беларускім рэпертуарам. У час юбілею выступіў таксама са школьным сябрам Адрыянам Баравіком на польскай мове, так як выступалі ў вучнёўскім музычным гурце.

— Я пачала адукацыю ў Арэшкаве, дзе жыла і прадоўжыла вучобу ў Пачатковай школе № 1 у Гайнаўцы. Калі адкрылася Беларуская пачатковая школа ў Гайнаўцы, бацька свядома мяне туды паслаў і сказаў, што я там сярод сваіх буду добра сябе адчуваць. Я тут два гады вучылася ў шостым і сёмым класах і з гэтай школы паступіла ў Гайнаўскі белліцэй, які закончыла ў 1955 годзе. У пачатковай школе і ў белліцэі была вельмі добрая атмасфера, паколькі мы вучыліся там у сваім крузе праваслаўных беларусаў. Настаўнікі стараліся нас многаму навучыць і прывівалі любоў да беларускай мовы і культуры. Пазней я сама стала настаўніцай і яшчэ лепш зразумела працу настаўнікаў, — расказала мне Марыя Бура, у дзявоцтве Хамацюк.

Аднак выпускнікоў, якія вучыліся ў першым дзесяцігоддзі дзейнасці Гайнаўскага белліцэя на з'ездзе было нямнога. Маладыя выпускнікі разлічвалі на добрую гульню ў час балю. У святкаванні юбілею белліцэя прымалі ўдзел таксама настаўнікі і працаўнікі белліцэя, якія перайшлі на пенсію. У знак падзякі ўручаліся ім кветкі. У час святкавання спаткаў я таксама белліцэйскіх настаўнікаў, якія зараз працуюць у іншых школах або памянялі прафесію. Я працаваў у Гайнаўскім белліцэі настаўнікам беларускай мовы і ў час з'езда паразмаўляў са сваімі былымі вучнямі, якія былі рады супольнай сустрэчы ў вялікай сям'і выпускнікоў. Пасля супольнага святкавання ў спартыўнай зале, у актавай зале і сталовай школы адбыўся пачастунак. Здаралася, што ў час пачастунку выпускнікі размаўлялі паміж сабой вельмі эмацыйна, паколькі ў некаторых выпадках даўно не бачылі адзін аднаго. Пазней удзельнікі з'езда спаткаліся ў класных кабінетах у групах выпускнікоў, якія канчалі вучобу ў белліцэі ў падобным часе, выконвалі супольныя здымкі. Ахвотныя пайшлі на могільнік у Гайнаўцы і ўсклалі там кветкі і запалілі зінчы на магілах сваіх настаўнікаў і сяброў, якія — як сказаў старшыня аргкамітэта з'езда Яўген Янчук — адышлі ў лепшы свет. Вечарам адбыўся баль выпускнікоў белліцэя. Частка ўдзельнікаў яшчэ на другі дзень з'езда вяла размовы аб вучобе ў мінулым і аб сённяшніх рэаліях жыцця, спажывалі каўбаскі каля вогнішча ў наваколлі прыгожай Белавежскай пушчы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



«Дубіны»



«Гармонь»



«Сяброўкі»




Дырэктар ліцэя Ігар Лукашук (усярэдзіне)

# Хвіліны З'езду ў фотааб'ектыве Ганны Кандрацюк


Выпускнікі 1982-1987 гадоў з прафесар Зінаідай Петручук


Марыёля Пшыходзкая і Дзмітры Ціханюк — жывыя легенды нашай школы



Прафесар Зінаіда Петручук памятала нашы імёны; на здымку з лекаркай Аннай Мароз і былым гайнаўскім старастам Міраславам Раманюком


Прафесар Аліна Пліс і журналіст Тамаш Саевіч


Гарэла вогнішча і нашы сэрцы таксама гарэлі... радасцю


Дырыжыраваў самавіты Яўген Янчук, выпускнік, былы настаўнік і арганізатар З'езда


Да танцаў падыгрывалі музыкі легендарных «Дубіноў»



У спевах рэй вялі Віктар Рэент і Пятро Карпюк. А спявалі, што не расказаць...


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# «Шчаслівы муж» у Орлі

Францішак Аляхновіч часта блытаў жыццё і тэатр. Ведаю гэта з вуснаў яго сыноў Юркі і Казімера, якіх мела магчымасць сустрэць у жыцці. Яго п'есы хаваюць многа біяграфічных матываў. З такой свядомасцю трэба глядзець спектакль «Шчаслівы муж», які адкрыў VI ужо выпуск Тэатральнага фестывалю «Одэ». Спектакль, як гаварылі гледачы, выклікаў не толькі цікавасць, але і захапленне. Добра, што пры нагодзе гаварылі і пра аўтара. Чаму? Пра творчасць гэтага геніяльнага драматурга рэдка калі прыгадваюць на ўроках беларускай мовы. Няма яго партрэтаў сярод галерэі класікаў, якія аздабляюць беларускія кабінеты. Я сама сустрэла такі брыдкі выпадак, калі фрагменты п'ес Аляхновіча апынуліся пад іншым прозвішчам. Прытым «аўтары» бажыліся і прысягалі, што гэта іх уласны твор. Ну, хоць сядзь і плач! Францішак Аляхновіч не любіў наракаць і плакаць. Ён лавіў такія дзівосы і фокусы ды скарыстоўваў іх у чарговых сваіх п'есах. Віленчукі абажалі яго за гумар і талент. На спектаклі Аляхновіча цяжка было набыць квіток. Праўда, як пачынальніку беларускага тэатра яму, як і тысячам беларускіх творцаў, трэба было расплаціцца найвышэйшай цаной — жыццём. Аляхновіч быў застрэлены 3 сакавіка 1944 года на 61 годзе жыцця.

Таму ўжо сам выбар п'есы заслугоўвае пахвалы для рэжысёра і акцёраў. І нават калі прозвішча аўтара запамятаюць адны акцёры, гэта ўжо добра. Жывем у час вялікай няўвагі і непавагі для творцаў. Мала хто разумее, што сцэнічныя творы пішуць аўтары. Добра, што пасля спектаклю ў Орлі са словам пра Францішка Аляхновіча выступіла знакамітая прафесар Лена Глагоўская. Гэта, дзякуючы яе запрашэнню, я сама вандравала па Вільні з сынамі легендарнага аўтара...


*Яцак Дружба, Ганна Філіпюк, Аляксандра Зінкевіч, Давід Дзмітрук, Дамініка Пуц, Пятро Свідэрскі, Максім Фіёнік, Марыя Тарасюк, Юля Банькоўская, Паўліна Нямыйская.*

«Шчаслівы муж» — навейшая пастаноўка маладзёвага тэатра, які вядзе Іаанна Троц. У ім выступаюць Марыся Тарасюк, Пятро Свідэрскі, Дамініка Пуц, Максім Фіёнік, Паўля Нямыйская, Давід Дмітрук, Аляксандра Зінкевіч, Ганна Філіпюк, Юля Банькоўская, Яцак Дружба і Артур Маркоўскі. Паглядзець спектакль рэкамендуем усім навучэнцам беларускай мовы, ды не толькі. Пакуль што такую магчымасць мелі вучні з Орлі і Бельска 22 і 23 верасня г.г. А аматары беларускага тэатра прыехалі ажно з Беластока.

Брава, цудоўная моладзь! Брава, настаўнікі, якія дбаеце пра развіццё і густ сваіх вучняў! Брава, рэжысёр Іаанна Троц!

ЗОРКА
Фота тэатра «Czrevo”


*Пятро Свідэрскі ў ролі Ільдэфанса Мацальскага (біяграфічны матыў Францішка Аляхновіча) і Марыся Тарасюк у ролі Магдалены тэатра.*

## УВАГА КОНКУРС! № 40-19

**Пад якім кустом сядзіць заяц, як дождж ідзе?**

Разгадайце загадку-пытанне з жартам. Адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнне дашліце ў „Зорку” да 20 кастрычніка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 36: камін. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Алесь Борскі, Беларусь

## Бачу восень

Восень убачыў пад бярозай
Зляцелі лісця і пажоўклі.
Я хадзіў па лесе, думаў
Думкі толькі трохі змоклі...
Пах грыбны вільготны, шэры,
Павуціння на вятры...
А вакол пажоўклі дрэвы
Колер кроны, як зары.
Мне казаць зусім не трэба
Пачуццё само крычыць.
Як прыгожа ўвосень неба..!
Хоць і шэрым зіхаціць.

( беларуская народная легенда )

# Адкуль паны?

Сёння ўсе лічаць сябе панамі. А раней не ўсе гэтага жадалі, ды нават смяяліся з паноў. Давайце аглянемся крышку на наш ментальны панадворак. Аповед напамінае нам, што беларускі вясковец заўсёды меў свой гонар.

Вось аднойчы заспрачаўся мужык з панам, як хто ўзяўся на свеце.

— Як тварыў Бог людзей, — пачаў мужык, — то мяне зрабіў з простай гліны. Узяў, зляпіў і паставіў сушыць. А з чаго зрабіць пана? Думаў Бог, думаў і прыдумаў. Дастаў ён пшанічнай мукі, змясіў усё, зляпіў пана, памазаў яйкам і яшчэ цукрам пасыпаў. Ну, смаката і роскаш.

Пан рады, калі яго хваляць:

— Бачыш! — папракае ён мужыка, — бачыш, які я!

— А бяжыць сабака, — цягне мужык, — абнюхаў ён таго мужыка: «цьфу, гліна»! Падняў лапу, абмачыў і пабег далей.

Пан радуецца як дзіця.

— Бачыш! — рагоча пан — Бачыш, які ты!

— Але ж вяртаецца той сабака, — цягне аповед вясковец, — вяртаецца да памазанага на салодка пана. Абнюхаў, палізаў: «добра пахне». То ўзяў і з'еў яго са смакам. Прыходзіць Бог і бачыць — няма пана. А побач, сабака, ляжыць як гара. Узяў Бог кій і давай лупіць абжору. І з таго пасыпаліся паны. Мо тысяча, а мо і дзве тысячы паноў. І кожны з іх іншы, кожны з надутым бурхелем.

Пачуў гэта пан, пачырванеў і крычыць:

— Ты, хам!

А мужык у рогат, смяецца ажно жывот яму разбалеўся.

— Чаго зубы скаліш? — крычыць пан. — Думаеш, гэта смешна?

— Але! — кажа насмешліва мужык. — Як сабака мяне абмачыў, то вы рагаталі, то цяпер і я пасмяюся.

*(Легенда запісана беларускім фалькларыстам Майсеем Грынблатам ад Аляксея Данілевіча родам з вёскі Арабаўшчына, што каля Баранавіч)*

**(гак)**

**АЛЯКСАНДРА КУЗЬМА – наймалодшая лаўрэатка беларускай дыктоўкі з праваслаўнай школы ў Беластоку. Олю віншуюць настаўніца Іаанна Марко, рэдактар Уля Шубзда і дырэктар НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія Марцін Абійскі.**



Фота Ганны Кандрацюк



*Сустрачанскі апытальнік з Яўгенам Вапам. Дызайн старонкі аўтарства Клаўдзіі Нікайчук*

Міра ЛУКША

## Жолуд

Дуб на скрыжаванні трох вуліц:
Мазавецкай, Вясёлай і Вашынгтона
свае жалудочкі туліць
пасярод ліствы ўсё зялёнай,
і долу кідае дзетак,
а яны ў бетон удараюць
губляючы шапачкі летнія,
што ў іх галоўкі хаваюць.
Пад іх падстаўляю далоні,
каб жолуд астаўся цэлы.
Смяюцца людзі з пагоні:
бегае цётка ў белым
пад дубам каля прыпынку,
над галавой рукі ўзняўшы,
быццам малая дзяўчынка,
жалуды ў палёце хапаўшы.
Жолуд у жоўтай берэтцы
з былой пладаножкай-хвосцікам,
з якой зацвітаў калісь кветкай,
у руцэ маёй цёплай мосціцца.

# Дзённік

## Сустрэч «Зоркі» (II)

13 чэрвеня, гадзіна 10:00

Цягам дзён выспелі нашы творы і артыкулы для сустрачанскіх газетак. Яны перарасталі школьныя спробы і задачы. Дапамагла творчая атмасфера, сустрэчы з паэтамі, спевы, падарожжы. Усе шукалі добрых загалоўкаў...

Наш чарговы госць, Яўген Вапа, падказаў, што лозунгі і загалоўкі можна здабыць з кожнай літаркі алфавіта. Ён прадставіў нам лекцыю на тэму «Народ без культуры, гэта...».

Напрыклад, літара «А» — ананімныя абарыгены! Мы разам шукалі прыкладаў, ажно зрабілася сумна, страшна і пагрозліва. Пісьменнасць, культура слова — найбольш важкія вызначальнікі тоеснасці народа. Яны вырашаюць пра развіццё і шчасце грамадзян. Па другім баку ёсць вайна, прыгнёт, няволя.

Пасля адна з нашых сяброўак напісала:

Яўген Вапа крыху яшчэ напалохаў, прадстаўляючы страшную і смешную ўяву народа без пісьменнасці. Але нам гэта не пагражае, паколькі трэба біцца (інтэлектуальна) за месца на летніку, таму што папасці сюды могуць толькі тыя, якія актыўна ўключаюцца ў беларускае жыццё цягам усяго года.

Пад вечар ужо былі загалоўкі газет і арыгінальныя дызайны: «Бел-News» і «Шэпты з шафы». У сваіх размовах, вершах і фельетонах мы даказалі, што хочам быць грамадзянамі свету. Што хочам адначасова берагчы і развіваць пісьменнасць і культуру беларускага слова. Што хочам захаваць крыніцы натхнення — наш лес, мову, лугі, абрады, менталітэт людзей. Але пра гэта вы самі маглі даведацца, чытаючы артыкулы ў «Зорцы».

Рэд. Ева Іванюк,
Галоўны рэдактар «Бел-News»

# Польска-беларуская крыжаванка № 40-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36-2019:**

Мёд, хан, увага, крыжадзюб, трон, ананас, рай, какосы, кіт. Тры, ёгурт, вырай, ражон, ганак, клад, наш, знак, сок, бо, сі, Аня, рыт.

Узнагароду, падвеску з васільком, выйграла **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# Гайнаўшчына слухае «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Беларускім Радыё Рацыя


Падчас спаткання найбольш актыўным быў Ян Трафімюк з Гайнаўкі


Перад публікай у белмузеі выступіў рэжысёр стужкі «Канцэрт жыцця» Мікола Ваўранюк

**Са слуханнем «Падляшскага канцэрта пажаданняў» на Беларускім Радыё Рацыя ёсць у Гайнаўцы так, як з музыкай дыска-пола, мала хто прызнаецца, а амаль усе яго слухаюць.** Калі ў цёплую летнюю суботу вяртаешся дамоў і бачыш на панадворках людзей, якія на грылі смажаць каўбаскі, можна пачуць «Канцэрт пажаданняў» на Радыё Рацыя. Слухаюць канцэрт людзі ў сярэднім і старэйшым узросце, а таксама дзеткі і моладзь. Я сам пастаянна слухаю «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Рацыі з сямейнікамі. Канцэрт слухае мая дачка з сям'ёй, якая працуе ў Ратэрдаме. Віншавальную радыёперадачу часта слухаюць мае сваякі і знаёмыя, — сказаў мне Ян Трафімюк з Гайнаўкі, ураджэнец Махнатага.

Разам са сванькай Галінай і сватам Владкам, іх дачкой Івонай і ўнучкай прыбыў Янка Трафімюк у дзень святкавання Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы на прэзентацыю фільма «Канцэрт жыцця» Міколы Ваўранюка. Паказвае ён феномен «Падляшскага канцэрта пажаданняў», які вяшчаецца на Беларускім Радыё Рацыя па суботах з шостай па дзявятую гадзіну вечара. Янка Трафімюк і яго сямейнікі — адны з галоўных герояў фільма, прэм'ерны паказ якога адбыўся ў Беластоку ў канцы жніўня.

— Я беларускай мове вучыўся ў Пачатковай школе ў Махнатым, а з беларускай песняй і музыкай жыву ўвесь час. Канцэрт на Рацыі гэта вельмі ўдалае падтрымліванне нашай беларускай спадчыны ў масавым маштабе. Слухачы знаёмяцца не толькі з беларускімі песнямі. Дзякуючы перадачы адбываецца таксама падтрымліванне беларускай культуры і традыцыі. Асобай вядучай канцэрт, якая мела вялікае ўздзеянне на маё жыццё, быў айцец Канстанцін Бандарук, які ў час, калі я быў паралізаваны, параіў мне, што на маю хваробу патрэбны малітва і музыка. Яго іншыя парады таксама давалі мне сілы і дапамаглі вярнуцца да здароўя. Іншыя вядучыя перадачу «Падляшскі канцэрт пажаданняў» таксама ствараюць вельмі добрую атмасферу, — сказаў Ян Трафімюк, які збіраецца ехаць да дачкі Маі ў Ратэрдам, каб расказаць ёй пра паказ фільма ў іх роднай Гайнаўцы. — Мы, усе слухачы самай папулярнай у нас перадачы «Падляшскі канцэрт пажаданняў», цяпер як адна вялікая сям'я, незалежна ці жывем у Гайнаўцы, Беластоку, Галандыі, ці Бельгіі, адкуль таксама тэлефануюць слухачы падчас канцэрта.

Белмузейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк прывітала шматлікую публіку сабраную ў кіназале Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы і госця спаткання — рэжысёра стужкі «Канцэрт жыцця» Міколу Ваўранюка з Беластоцкага аддзялення Польскага тэлебачання, які таксама супрацоўнічае з Беларускім Радыё Рацыя. Коратка распавёў ён пра фільм, які


Ян Трафімюк (другі справа) і сям'я Богуняў

стварыўся пяць гадоў па заказе Аб'яднання ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову «АБ-БА» ў Беластоку з фінансаваннем з розных крыніц.

— У фільме я хацеў паказаць атмасферу і настроі слухачоў Радыё Рацыя, калі яны слухаюць перадачу «Падляшскі канцэрт пажаданняў». Паказалі мы, што людзі ў розных абставінах слухаюць перадачу, якая гуртуе людзей розных узростаў і ў розных месцах у адну вялікую сям'ю. Фільм здымаў найлепшы фільмавы аператар на Падляшшы Раман Васілюк, ураджэнец Гайнаўкі. Патрапіць ён злавіць у кадры сум, радасць і іншыя настроі на тварах людзей і гэта мела вялікае значэнне для фільма. Раман Васілюк зрабіў таксама ў адпаведным моманце цікавыя збліжэнні на ногі і рукі, калі яны варушыліся пад такт музыкі, якая гучала ў час «Падляшскага канцэрта пажаданняў», — расказаў рэжысёр фільма Мікола Ваўранюк.

Многія сабраныя ў белмузеі ведалі асабіста Міколу Ваўранюка, ураджэнца Тыневіч і Рамана Васілюка, або спатыкалі іх раней у горадзе, што ў Гайнаўцы абазначае, што яны — свае хлопцы.

На спатканне ў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы 21 верасня прыбылі жыхары Гайнаўкі, якія здымаліся для фільма, слухаючы «Канцэрт пажаданняў» у Старыне.

— Будучы ў Галандыі, мы пастаянна слухалі «Канцэрт пажаданняў» на Радыё Рацыя праз інтэрнэт. У час перадачы гучалі наша мова і беларускія песні, якія злучаюць нас з роднай Гайнаўкай і яе наваколлем, — сказала Івона Богунь, якая прыйшла ў белмузей разам з дачушкай.

— Для фільма «Канцэрт жыцця» рабіліся здымкі каля нашага дома ў Старыне, куды з'ехаліся нашы сямейнікі, якія слухаюць «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Рацыі. Для фільма многа выказваўся мой сват Ян Трафімюк і мая сынавая Мая, якая працуе ў Ратэрдаме і там слухае Радыё Рацыя. Мы ведаем Міхала Андрасюка з суседняй вёскі Войнаўка, які здаўна вядзе перадачы на Радыё Рацыя, а «Канцэрт пажаданняў» сталі слухаць зараз пасля аднаўлення вяшчання Радыё Рацыя. Да нас Мікола Ваўранюк трапіў праз свата Янку, які тэлефануе на радыё і перказвае пажаданні. Нашы сем'і Богуняў і Трафімюкоў з'яўляюцца пастаяннымі слухачамі Радыё Рацыя. У Гайнаўцы многія слухаюць «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Рацыі. Дзякуючы гэтай віншавальнай радыёперадачы маладыя людзі знаёмяцца з беларускай культурай і мовай, — гаварыла Галіна Богунь, якая прыбыла ў белмузей разам з мужам Владкам.

У белмузей прыбылі жыхары Гайнаўкі і іншых суседніх гмін. Аднак найбольш актыўным з публікі быў Ян Трафімюк з Гайнаўкі. Ён таксама многа выказваецца і ў фільме — у сцэнах знятых у Старыне і ў студыі Беларускага Радыё Рацыя. Фільм паказвае, як на панадворку Богуняў у Старыне спаткалася многа сямейнікаў. Слухалі яны віншавальную перадачу на Беларускім Радыё Рацыя, гасцявалі ў час цёплага сонечнага надвор'я і многа пахвальнага расказвалі пра канцэрт. Перадача «Падляшскі канцэрт пажаданняў» яднае сямейнікаў — тых, якія штодзень жывуць у Гайнаўцы, і тых, якія працуюць і жывуць у Ратэрдаме. Канешне, на прэзентацыі фільма ў белмузеі не хапала дачкі Янкі Трафімюка — Маі Богунь, адной з гераінь фільма. Падчас здымачнай сесіі ў Старыне распавядала яна, як важнай для выхадцаў з Гайнаўкі, якія працуюць у Галандыі, з'яўляецца лучнасць з бацькаўшчынай праз пасрэдніцтва перадачы «Падляшскі канцэрт пажаданняў». У Старыне зняты былі таксама маладыя асобы, якія з дарослымі спявалі песні і гулялі.

Фільм пра канцэрт здымаўся і ў Павятовым шпіталі ў Гайнаўцы, дзе перш за ўсё лечацца жыхары Гайнаўшчыны. Героямі стужкі Міколы Ваўранюка сталі таксама жыхары іншых мясцовасцей Гайнаўскага павета. Жыхароў Чыжоў і Тапіла спалучаў солтыс Чыжоў і лістаноша Яраслаў Бялькевіч. Слухае ён перадачы на Радыё Рацыя і распаўсюджвае наш беларускі тыднёвік «Ніва».

— Не ўсе жадаючыя змаглі прыйсці ў музей на прэзентацыю фільма і добра было б паставіць яго ў інтэрнэт, — заявіў мужчына з залы.

Мікола Ваўранюк паінфармаваў, што плануецца змясціць фільм «Канцэрт жыцця» ў інтэрнэце і выявіў спадзяванне, што калі такая магчымасць паявіцца, хутчэй за ўсё фільм будзе можна знайсці на сайце Беларускага Радыё Рацыя, якое па суботах вяшчае «Падляшскі канцэрт пажаданняў». Удзельнікі сустрэчы ў кіназале белмузея далі рэжысёру Міколу Ваўранюку станоўчую ацэнку за ўмелае састаўленне розных абставін у фільме, калі жыхары Беласточчыны слухаюць перадачу «Падляшскі канцэрт пажаданняў». Жыхары Гайнаўшчыны пахвалілі таксама Рамана Васілюка за ўмелае паказанне дэталяў, якія разам з паасобнымі сцэнамі састаўляюць непаўторны клімат стужкі. У фільме паказана вяртанне старэйшага пакалення ў сваіх успамінах да часоў моладасці, калі маладыя людзі многа спявалі, танцавалі і радаваліся нават невялікімі поспехамі. Пасля сённяшнія пенсіянеры радаваліся поспехамі сваіх дзяцей, а зараз ганарацца сваімі ўнукамі і іх жыццём. У час сустрэчы ў музеі чуліся нараканні, што вельмі складана дазваніцца да вядучых «Падляшскі канцэрт пажаданняў» і гэтая праблема паяўляецца таксама некалькі разоў у фільме.

— Стварылася ўжо сям'я слухачоў перадачы «Падляшскі канцэрт пажаданняў», вельмі разнародная. Мікола Ваўранюк трапна паказаў суадносіны паміж людзьмі ў фільме, з якімі мы вяртаемся ў часы нашай моладасці, — сказалі мае суразмоўцы з Гайнаўкі.

Сабраныя даведаліся, што прэзентацыі фільма не дачакаліся некаторыя яго героі. Памерлі і Васіль Бялькевіч з Чыжоў, і мужчына, які на фільме слухае перадачу з жонкай, лежачы на ложку. Мікола Ваўранюк паінфармаваў аб чарговых прэзентацыях фільма «Канцэрт жыцця». Паколькі спатканне адбывалася ў суботу, асобы, якія даўжэй заседзеліся ў белмузеі, спешна ад'язджалі дамоў, каб у сямейнай атмасферы паслухаць «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Беларускім Радыё Рацыя.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам



Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. У яго інаўгурацыі і працах прымалі ўдзел шматлікія гаспадарчыя дзеячы з Польшчы і замежжа, а таксама палітычныя дзеячы мясцовага рангу. Былі зачытаны лісты ад прэзідэнта Рэчы Паспалітай Анджэя Дуды і старшыні Рады міністраў РП Матэвуша Маравецкага. Абодва нашы лідары напісалі, што вельмі хацелі на кангрэсе быць, але іншыя важныя іх абавязкі не дазволілі ім на гэта. Гэта парадкам фармальнага ўступу, якому была прысвечана інаўгурацыйная частка мерапрыемства.

Істотная частка кангрэса пачалася з пленарнай сесіі, прысвечанай пятнаццацігоддзю прысутнасці Польшчы ў Еўрасаюзе, у якой прынялі ўдзел гаспадарчыя дзеячы з Польшчы, Эстоніі, Венгрыі ды Сербскай Рэспублікі Босніі і Герцагавіны. Для нас найважнейшыя былі выказванні нашых, польскіх прамоўцаў.

**Цэзары Казьмерчак**, старшыня Асацыяцыі прадпрымальнікаў і працадаўцаў: — Польшча за 15 гадоў членства ў Еўрасаюзе вельмі развілася, мы з'яўляемся адным з найбольш праеўрапейскіх народаў. Прысутнасць у такой супольнасці звязана так з карысцямі, як і з коштамі. З аднаго боку былі еўрафонды, якія склалі каля 3,5% валавога ўнутранага прадукту, гэта даволі многа. Але не былі гэта грошы, якія перадала нам ЕС толькі таму, што мы такія файныя ці маладыя, але за доступ да рынку. Польшча не мела грошай і гэта была звычайная гандлёвая здзелка — нам заплацілі за тое, што мы адкрылі рынак. Але і свайго трэба было крыху дакласці. Але з другога боку: польскія прадпрымальнікі, хаця з вельмі сціплым капіталам, атрымалі доступ да рынкаў Заходняй Еўропы. Спачатку выглядала гэта так, што будзем здамінаваны немцамі; цяпер гэта не дамінацыя, але вельмі глыбокая сузалежнасць паміж нашымі гаспадаркамі — мы зараз з'яўляемся вялікай вытворчай базай для Германіі, вельмі істотнай. З тых спраў, якія не ўдаліся, у цэлым ЕС укаранёны тры дырэктывы пра свабодны рух людзей, капіталаў і тавараў; яны карысныя Заходняй Еўропе, затое маем праблемы з укараненнем паслуговай дырэктывы, карыснай для Усходняй Еўропы, у тым і для Польшчы. Гэта вынікае з ігры інтарэсаў; мы не маем адпаведнай палітычнай магутнасці дзеля запуску гэтай дырэктывы. Не надта добра арыентуемся ва ўсіх юрыдычных закавычках, майстрамі ў гэтай галіне з'яўляюцца французы, але мяркую, што цягам некалькіх гадоў і наш урад набярэ такой лоўкасці і будзем маглі карыстацца тымі інструментамі. Агульна, я прысутнасць Польшчы ў ЕС ацэньваю вельмі станоўча.

**Дарыюш Піянткоўскі**, міністр адукацыі РП: — З аднаго боку атрымалі мы сур'ёзны шанс на прыдбанне еўрасаюзных сродкаў — на камунікацыю, культуру, спорт, адукацыю. Шматлікія фірмы змаглі мадэрнізаваць свой машынны парк дзеля ўзбуйнення магчымасцей выхаду не толькі на мясцовыя, але і замежныя рынкі. Але з другога боку паявіліся пэўныя бар'еры, якія не дазваляюць нам карыстацца тымі сродкамі. Трэба прыгадаць тыя вялікія праблемы, якія мы мелі з будовай аб'язной дарогі Аўгустова, але таксама праблемы, якія ўзнікаюць пры будове іншых транспартных калідораў. Гэта вынікае і з абмежаванняў, якія ставіць ЕС, але і з пэўнай бяздарнасці нашых палітыкаў, бо, для прыкладу, у акцэсійным дагаворы не забяспечылі мы магчымасцей больш свабоднага будаўніцтва транспартных калідораў, так як гэта было зроблена ў Заходняй Еўропе. Напэўна наша ваяводства, так як і ўся краіна, скарыстала з прысутнасці ў ЕС, большасць нашага грамадства не сумнявалася б, што да ЕС мы павінны належаць. Але, адначасна, мусім цвёрда змагацца за нашы інтарэсы. З райскага міфа пра захад Еўропы, дзе ўсё адбываецца выдатна, перайшлі мы ў фазу рэальнасці, дзе бачым, што ЕС гэта так у сапраўднасці такая супольнасць, дзе вядзецца цвёрдае змаганне за інтарэсы паасобных дзяржаў і паасобных рэгіёнаў. Мала, так як яшчэ некалькі гадоў таму, усміхацца на еўрапейскіх салонах, бо гэта не ўплывае на рэальныя рашэнні еўрасаюзных суб'ектаў. Трэба або ўступаць у саюзы дзеля блакіравання некарысных нам рашэнняў, або лабіраваць за рашэнні нам карысныя. Польскі ўрад ад некалькіх гадоў інтэнсіўна намагаецца за тыя нашы інтарэсы хадайнічаць і, відаць, што час ад часу прыносіць гэта станоўчыя вынікі. Не заўсёды ЕС пароўнаму трактуе паасобных партнёраў ці паасобныя дзяржавы; прыкладам справа Нордстрыму паказвае, што гаспадарчыя ці палітычныя інтарэсы наймагутнейшых дзяржаў ЕС важнейшыя, чым салідарнасць у будаванні, напрыклад, энергетычнай бяспекі. Нягледзячы на такія недахопы, няма хіба сёння ў Польшчы сур'ёзнага палітыка, які заклікаў бы выходзіць з ЕС; спрэчкі засяроджваюцца вакол таго, як мы павінны весці сябе ў ЕС, каб як найлепш рэалізаваць інтарэсы нашых грамадзян і захіляць ад празмернага пашырэння кампетэнцый Еўракамісіі ці еўрапейскіх чыноўнікаў. Не толькі Польшча адчула гэта на ўласнай скуры, што наша частка Еўропы трактуецца інакш, чым прадбачвалася.

**Ян Мікалушка**, старшыня Назіральнай рады UNIBEP S.A., ганаровы консул Падляшскага ваяводства: — Маршалак Касіцкі гаварыў пра галіны, якія развіліся на Падляшшы ў апошніх гадах. У нашым ваяводстве маем дачыненне з такою двудушнай сітуацыяй; мы наракалі, што капітал замежны мала ў нас інвеставаў. Але гэта прывяло да таго, што тут узніклі фантастычныя фірмы, фірмы-экспарцёры, для прыкладу Млекавіта, Млекпол і іншыя — гіганты еўрапейскага маштабу. Гэта ўсё экспарцёры; і што найважнейшае: яны паўсталі выключна з уласнага капіталу, уласным высілкам у нашым рэгіёне. Яны экспартуюць ад 30 да 80 адсоткаў на найтруднейшыя рынкі, а гэта прыкмета арганізацыйнай, кадравай і фінансавай якасці. Мы павінны гэтым ганарыцца. А ў будаўнічай галіне сітуацыя больш складаная. Мы асвоілі тэхналогіі, польскія будаўнікі сталі сусветнымі лідарамі. Але ёсць і мінусы. З аднаго боку мы так адкрыліся на Еўропу, што зараз сярод лідараў польскага будаўніцтва ёсць толькі некалькі фірм з польскім капіталам; у першай дзясятцы восем фірм з замежным капіталам. Гэта быццам добра, але ўласнікі гэтых фірм прымаюць рашэнні здаля. І другая адмоўная справа, усе правячыя групоўкі, і папярэднія і цяперашнія, давалі да гэтага: сітуацыя з інвестыцыйнай сінусоідай вядзе да таго, што бываюць перыяды, калі няма работы і трэба з усіх сіл змагацца за заказы, а пасля цэны астаюцца, работы большае і мы плачам.

**Анджэй Садоўскі**, заснавальнік і старшыня Даследчага цэнтра імя Адама Сміта: — Калі Польшчу прымалі ў ЕС, то адзін з камісараў сказаў, што ў Польшчы ёсць людзі, якім яшчэ хочацца працаваць. Таму першыя гады прысутнасці ў ЕС былі вельмі важнымі ў той момант, калі ЕС пашыраў узровень гаспадарчай свабоды. Сёння ЕС гэты ўзровень гаспадарчай свабоды намагаецца абмежаваць, прыкладам гэтаму дырэктыва г.зв. мабільнасці, дзе польскі транспарт так развіўся, што стаў вядучым у ЕС, выцясняючы транспарт Францыі і Германіі, і была скарыстана палітычная і бюракратычная інтэрвенцыя дзеля блакіравання нашага транспарту; гэта адбываецца і ў іншых абшарах. ЕС адобрываў прысутнасць такіх краін як наша, пакуль не сталі пагражаць інтарэсам іншых еўрапейскіх краін. Але ўзвальванне на ЕС усяго злога і добрага памылковае, бо ўступленне ў ЕС не прычынілася да таго, што суды ў Польшчы паправілі сваю дзейнасць. Наадварот, відаць у гэтай справе рэгрэс функцыянавання юстыцыі ў Польшчы калі гаварыць пра паслугі для насельніцтва; паслугі юстыцыі пагоршыліся. ЕС не можа адказваць за ўсе аспекты развіцця нашай краіны, бо большасць рашэнняў прымаецца ў Варшаве, а не ў Бруселі. Можам больш суверэнна фармаваць нашу палітычную і гаспадарчую пазіцыю і польскаму ўраду ніхто не забароніць выйсці з запазычанасці, так як Эстоніі. Цяпер Эстонія з'яўляецца адной з найменш запазычаных у свеце краін. Значыць, ад польскага, як і эстонскага ўрада залежыць, як развіваюцца ўстановы ў краіне і які ўзровень свабоды даецца гаспадарцы, бо ад яго будзе залежаць развіццё. Калі б Польшча прыняла найніжэйшы ўзровень рэгуляцый, як у іншых краінах ЕС, то без еўрапейскіх, нават без уласных інвестыцый, адно з самага факту зніжэння тых рэгуляцый мелі б мы буйнейшы на некалькі працэнтаў гаспадарчы рост. Шмат, значыць, залежыць ад юрыдычна-арганізацыйных рашэнняў. Бо людзі ў свеце аднолькавыя, так сама хочуць працаваць, так сама хочуць засноўваць сем'і, багацець, толькі розніца ва ўзроўні дабрабыту і багацця вынікае з юрыдычнага парадку. ЕС гэтага за нас не зробіць і трэба помніць, што большасць рашэнняў залежыць ад нас. У 1999 годзе ў Белавежы была ладжана навуковая канферэнцыя і там было пастаўлена пытанне, ці Падляшша можа стаць сіліконавай далінай. Можа, але рашэнне гэтага пытання тут, на месцы, без чакання на Брусель.

**Павел Вайцяхоўскі**, галоўны эканаміст ЗУС (Установы сацыяльнага страхавання), былы міністр фінансаў РП, былы віцэміністр замежных спраў: — ЕС нейкі час бачыўся як спрычыняльнік бед, а не ўстанова, якая рашае праблемы. Дзеля прыкладу: міграцыйны крызіс, дзе ў Афрыцы на працоўны рынак уваходзіць 15 мільёнаў новых людзей; гэта не ЕС стварыў той крызіс, ЕС прабуе яго рашыць, лепш ці горш, але прабуе; ЕС сам не стварае крызісаў. Адносна бюракратыі, бо тут паявілася такое слова. Бюракраты прысутныя ўсюды; я таксама з'яўляюся бюракратам. Польшча на далучэнні да ЕС атрымала найбольш не тое, што нам на першы погляд падаецца: гэта не грошы, але, галоўным чынам, добрыя ўстановы. Стандарты. Гэта ад ЕС усе чакалі руху па стварэнні транспартных калідораў: Via Carpatia ці Via Baltica. Істотнае было рашэнне ЕС наконт роўмінгу. Важнае, што даў ЕС, гэта нормы, бяспека, наплыў ноў-хаў. І, канешне, грошы, а гэта грошы праграсіўныя, якія прычыняюцца да развіцця. Кожная еўрапейская залатоўка мусіць інвеставацца з карысцю, бо іх расходаванне варунквана.

**Дарыюш Піянткоўскі**: — Вядома, не ўдалося нам адрабіць адсталасці, але параўноўваючы ўзровень жыцця цяперашні з узроўнем дваццацігадовай даўнасці, то прагрэс навідавоку. Уся Польшча, у тым і Падляшша, за той час змяніліся. Я не турбуюся тым, што не справімся пры зменшаным бюджэце. Наша частка Польшчы не карысталася такім лікам замежных інвестыцый у Польшчы, як іе заходняя частка. Па гэтай прычыне было нам тужэй, але ўдалося збудаваць такія фірмы, якія ўмеюць абыходзіцца без мажных еўрасаюзных сродкаў. Яны набіралі моц у складанейшых умовах, але сёння з'яўляюцца раўнапраўным партнёрам тым фірмам, якія карысталіся фінансавай прышчэпкай звонку і, магчыма, нават здаравейшыя, бо самі выпрацавалі тыя сродкі. Напэўна дапаможа нам тое інвестыцыйнае папаўненне пры пабудове чыгуначных і дарожных ліній. Не толькі спалучаючыя Усход з Захадам, па лозунгу сённяшняга мерапрыемства, але таксама будова Via Carpatia дазволіць на збудаванне восі Поўнач—Поўдзень. Прыгадаю, што падляшскім прадпрымальнікам лягчэй ладзіць кантакты з Варшавай, чым з Люблінам, бо адлегласць падобная, але мы камунікацыйна адсечаны ад апошніх цэнтраў Усходняй Польшчы і гэта трэба змяніць. Напэўна важным выклікам з'яўляецца завязка кантактаў з нашымі ўсходнімі пазаеўрасаюзнымі партнёрамі, дзе таксама ёсць рынак збыту. Спадзяюся, што гэтыя кантакты ўдасца нам развіць. З пункту гледжання Мінска ці Кіева Польшча з'яўляецца членам Еўрасаюза, з якім варта трымаць гаспадарчае супрацоўніцтва. Калі такое супрацоўніцтва ўдасца развіць у шырэйшым маштабе, то Падляшша на гэтым скарыстае. Прыгадаю, што частка нашага гаспадарчага капіталу была будавана на гандлёвым абмене, хаця б з Беларуссю. І значная частка фартун, якія тут паўсталі, вынікла з таго гандлёвага абмену. Калі не будзе нейкіх сур'ёзных абмежаванняў з боку Еўрасаюза, як гэта было з транспартам, то я напоўнены аптымізмам і лічу на такі шанс у чарговыя гады.

**Ян Мікалушка**: — Сродкі на інвестыцыі ў прынцыпе паходзяць з чатырох крыніц. Сканцэнтраваныя еўрафонды фантастычныя, абсалютна, гэта блаславенства для інвестыцый. Другая крыніца гэта самаўрадавыя сродкі, трэцяе, гэта інвестыцыі людзей у жыллёвае будаўніцтва ды, чацвёртае — інвестыцыі прадпрыемстваў. Я крышку апасаюся за будучыню, бо шмат з гэтых крыніц паменшае цягам чарговых гадоў. Без еўрасаюзных сродкаў, на жаль, не завершым тых нашых распачатых інвестыцый. Сёння ганарымся, што маем S-8, але толькі S-8. Rail Baltica распачата, але напэўна не будзе завершана ў бягучай бюджэтнай перспектыве, напэўна; пасыпаліся фірмы, ёсць праблемы. Via Carpatia ў нашым ваяводстве нават не пачалася і так скора не пачнецца. Калі не атрымаем еўрасаюзных сродкаў, то будзе кепска. Але хачу тут намякнуць пану міністру асцярожнасць у фінансавым нагружванні прадпрыемстваў. Кожны від падаткаў прыводзіць да некалькіх мільёнаў дадатковых коштаў у маёй фірме. І было б вельмі дрэнна, калі б мы перасталі інвеставаць.

**Дарыюш Піянткоўскі**: — Падаткі, пра якія згадваў спадар старшыня, гэта не падатковыя нагружванні толькі спагнанне належных падаткаў.

**Ян Мікалушка**: — Я згаджаюся, што падатковае ўшчыльненне карыснае, бо даводзіць да роўнай канкурэнцыі. Але я гавару пра тыя дробныя рашэнні, якія вядуць да дадатковай працы фірмы, спрычыняюць дадатковыя кошты; як зваць так зваць — заўсёды гэта падатак.

**Павел Вайцяхоўскі**: — Трэба памятаць пра тое, якія карысці на тых транспартных шляхах атрымаем, ці ўдасца спыніць там паток тавараў. Возьмем, для прыкладу, Шаўковы шлях: ці мы зможам стварыць у Польшчы лагістычныя цэнтры, каб гэтыя патокі тавараў не пераскоквалі далей — цяпер яны ўсе едуць у Дуйсбург — найбольшы сухапутны порт у свеце. Ад нас саміх будзе залежаць, ці тыя дыпламатычныя захады і будаванне гэтых шляхоў запэўняць развіццё рэгіёна, ці тут будуць месцы працы, а не толькі будзем выконваць транзітную ролю: прыкладам — турыстам з Клайпеды дамо дарогу ў Салонікі. Адносна падаткаў мяне вельмі турбуе гэтая дыскусія, тыя падатковыя змены. Вось нядаўна пан прэм'ер заявіў, што зніжаем складчыны ЗУС для малой гаспадарчай дзейнасці, якія ахопяць каля двухсот тысяч новых прадпрымальнікаў. Але мяне турбуе тое, што не бачым павіннасцей з другога боку. Зніжэнне складчын вядзе да зніжэння дзяржаўных павіннасцей. Мы таго не бачым, але нехта за тыя павіннасці будзе мусіў заплаціць. Стабільнасць публічных фінансаў з'яўляецца ключавым выклікам для палітыкі ў найбліжэйшы час.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

З ☞ працяг

А самы першы прыз нам дала беларуская сталіца. Так сказаў Яўген Вапа, пасля наведвання кафэ з простай і яснай назвай „Ежа". Зайшлі туды перакусіць перад урачыстасцямі. Вапа заўсёды цешыцца, як што добрае ў Беларусі знойдзе. Ну але і праўда было смачна. Я нават здзівіўся, што такую смачную ежу ўладальнікі кафэ іншым даюць. Хай бы, думаю, самі елі, такую смачную...

Злева: Міхась Андрасюк і Іля Сін

Міхась Андрасюк быў не такі эмацыйны, але пахваліў таксама. І Андрэй Коця пахваліў.

А ў мінскім Палацы мастацтваў да ўрачыстасцей ужо ўсё было падрыхтавана. Нават Алег Латышонак не паленаваўся, едучы з Вільні, завітаць сюды. Зайздросная салідарнасць беларусаў Польшчы.

Выступалі творцы, паказвалі кароткія відэа з урыўкамі твораў намінантаў. Упершыню за той дзень не зайздросціў ім, тым намінантам. Гэта ж якое выпрабаванне нерваў, сядзець так і чакаць вынікаў. Я сядзеў побач з сябрам журы, вядомым пісьменнікам Алесем Пашкевічам. Але пра вынікі не пытаўся. Усё адно не скажа. Так у журы прынята, каб не агучваць вынікі раней часу.

Але і так нібыта ведаю пра другое месца. Ну не маглі падмануць прадчуванні Вапу. У такіх справах у яго ёсць літаратурны нюх. Ды і таварыш маёр з анекдота пра другое месца казаў... Ну, а галоўнае ружа... Яна не агучвала, якое будзе месца. Яна проста сваёй жывучасцю нібыта паказала, што твор добры, і таксама будзе жывучы. І гэта галоўнае...

Нарэшце ўся шасцёрка намінантаў на сцэне. Цёплыя словы, дыпломы, і зноў чаканне.

І вось агучана трэцяе месца! „Садомская яблыня" Алены Брава (Мінск, «Галіяфы») „за глыбіню сацыяльнай дыягностыкі сродкамі мастацкай літаратуры".

Авацыі. Словы лаўрэаткі...

Другое месца! На сцэну выходзіць старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка). З першых слоў ясна, пра каго ён кажа:

— За адметную інтэрпрэтацыю нацыянальнай міфапаэтычнай традыцыі...

Усё ясна. Другое месца атрымаў Міхал Андрасюк з кнігай „Поўня" (Беласток, «Праграмная рада тыднёвіка „Ніва"»).

— У прэміі Гедройца, ці не самай прэстыжнай літаратурнай прэміі для празаікаў у Беларусі, другое месца — вялікі гонар для беларускай літаратуры ў Польшчы. Я ў Польшчы нарадзіўся, я ў Польшчы ўсё жыццё пражыў. Мы шмат гадоў існавалі на ўзбочыне беларускай літаратуры ў цэлым. Сёння я магу сказаць, што гэта такі завяршальны працэс інтэграцыі беларускай літаратуры ў Польшчы і беларускай літаратуры ў цэлым, — сказаў у сваім выступе адзіны намінаваны на ўзнагароду Ежы Гедройца прадстаўнік беларускага замежжа, пісьменнік з Падляшша Міхась Андрасюк.

Першае месца! За канцэптуальнае ўвасабленне светаадчування сучаснага грамадства і эфектыўнае выкарыстанне авангардысцкіх тэхнік пісьма першае месца заняў раман Іллі Сіна „Libido" (Мінск, «Кнігазбор», Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»).

І гэта яшчэ не ўсё. Новая намінацыя „Выбар Алексіевіч". Яе лаўрэатам стаў Сяргей Календа з кнігай „Часам панкі паміраюць".

Назад вярталіся ў паднесеным настроі. І не таму, што ўрачыстасці закончыліся традыцыйным фуршэтам. А таму што... Самі ведаеце чаму.

Ну а ружа працягвае стаяць. Свежая такая, як толькі што набытая. Каб была мая воля, я б яе зрабіў сімвалам выдавецтва, ці яшчэ чаго вартага. Хаця б якога экслібрыса. А што, хораша нават гучыць, Беларусь — белая ружа! А як глядзіцца! Вось пішу і ўзіраюся на яе. Аніводзін пялёстак яшчэ не зваліўся. Што яна хоча гэтым сказаць? Напэўна толькі тое, што гэта не апошняя ўзнагарода, якую атрымае і Міхась Андрасюк, і іншыя аўтары з выдавецтва Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва".

Толькі я нікому не кажу пра гэта. Каб не сурочыць.

Тэкст і фота **Віктара САЗОНАВА**

+375 (29) 865-99-99

## Амбар ў Міраслава

## https://sites.google.com/view/ambarmir/

Восень заўсёды асацыюецца са зборам ураджаю. А ўраджай трэба недзе захоўваць. У вёсках месцам захоўвання збожжа, гародніны і іншых харчовых прыпасаў былі свірны, якія месціліся звычайна ў двары сялянскай сядзібы. Зразумела, што ў горадзе ніякіх свірнаў побач са шматпавярховымі блокамі быць не можа. Разам з тым памяць аб вясковых месцах захоўвання харчовых прыпасаў засталася, і прадпрымальныя людзі ўмеюць яе выкарыстоўваць.

Адным з прыкладаў такога выкарыстання з'яўляюцца крамы з садавінай і гароднінай — як у Баранавічах, дзе з'явіўся „Амбар у Міраслава". Калі мы зойдзем на яго сайт, што месціцца па адрасе **https://sites.google.com/view/ambarmir/**, то ўбачым, што ўладальнік актыўна карыстаецца беларускай мовай не толькі ў віртуальнай прасторы, але і ў рэальнасці. Праўда, не ўсё пакуль атрымліваецца, і рускамоўнае асяроддзе аказвае на яго вельмі моцны ўплыў. Напрыклад, у той жа назве ёсць слова „амбар", якое насамрэч рускае, бо па-беларуску — гэта ўсё ж такі „свіран". „Правільная назва мусіла б быць „Свіран у Міраслава" (нават у слоўніку Крапівы амбар = свіран)", — адзначаецца на сайце беларускамоўнага бізнесу „Свае".

Дарэчы, часам аўтэнтычныя словы беларускай мовы ў беларускім бізнесе замяняюцца рускімі ў беларускіх жа словазлучэннях альбо бязглузда выкарыстоўваюцца ў рускіх назвах. Напрыклад, можна сустрэць такое: „Лепшы паталок" (лепшая столь) ці „Земляничный слодыч" (сунічная слодыч). „Амбар у Міраслава" — з шэрагу гэтага моўнага вычварэння. Аднак ужо тое, што гаспадар крамы ў прынцыпе не цураецца беларускай мовы падчас яе татальнага заняпаду, не можа не цешыць, таму гэты недахоп яму можна і прабачыць. Як сведчаць „Свае", штодзённая рэклама на ўваходзе таксама стала афармляецца па-беларуску.

„Заўсёды свежая садавіна, сакавітая гародніна, духмяны мёд і арэхі! «Амбар у Міраслава» — гэта сапраўдная скарбніца вітамінаў. Ніякіх дабавак і канцэнтратаў, ды смачна як у бабулі!", Кабы смачнай была страва — Гоў у «Амбар у Міраслава»!", „Мы даем нашым кліентам якасную прадукцыю, выключны сэрвіс і клопат. Менавіта таму яны заўсёды вяртаюцца да нас. Мы ніколі не спыняемся ў сваім развіцці і імкнемся ўдасканальваць нашы прапановы". Такія заклікі можна сустрэць на сайце „Амбара" да патэнцыйных пакупнікоў. Найбольш цікавым падаецца такі: „Што можа быць ласкавей, чым далоні матулі? У руках маці ўся пяшчота роднага краю. Менавіта такія рукі збіраюць скарбы беларускай зямлі, каб апасля яны апынуліся на вашым стале! «Амбар у Міраслава» — гэта заўсёды смачная садавіна, сакавітая гародніна, духмяны мёд, арэхі! «Амбар у Міраслава». Усё ад роднай зямлі для вашай сям'і". Аднак наўрад ці ўсё тое, што маецца на фотаздымках сайта, расце ў звычайных умовах на беларускай зямлі. Так, аўтару гэтых радкоў ніколі не сустракаліся беларускія апельсіны, мандарыны, гранаты, дыні, персікі ці кавуны.

Заклікае не пазначаны на сайце гаспадар „Амбара" да супрацоўніцтва розныя рэстараны, бары і кавярні, запэўніваючы, што якасць прадукцыі, якую крама будзе ім пастаўляць, абрана „галоўным прыярытэтам". Для пастаянных кліентаў прапануюцца нейкія, таксама не пазначаныя на сайце, умовы.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

## 105 гадоў з дня нараджэння

# Лявона Случаніна

Беларускі паэт Лявон Случанін (сапраўднае імя Лявонці Шпакоўскі) нарадзіўся 15 кастрычніка 1914 г. у вёсцы Лучнікі Слуцкага павета тагачаснай Мінскай губерні (цяпер вёска ў Слуцкім раёне). Паходзіў з сялянскай сям'і. Бацька Раман Шпакоўскі апрача працы на зямлі займаўся цяслярствам, на нейкі час ездзіў на заробкі ў Амерыку, маці займалася хатняй гаспадаркай.

У 1929 г. Лявон Случанін паступіў у Слуцкі педагагічны тэхнікум. Пад уплывам мастацтва Уладзіслава Галубка і яго артыстычнай трупы паступіў у Мінскі тэатральны тэхнікум. Як сын серадняка быў залічаны без стыпендыі, але грошай не было, таму быў змушаны вярнуцца ў педтэхнікум. З трэцяга курса паступіў на літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1936 г. Дэбютаваў у перыядычным друку ў тым жа годзе. Менавіта тады газета „Звязда" змясціла ў яго перакладзе на беларускую мову „Вершы аб савецкім пашпарце" Уладзіміра Маякоўскага, газета „Рабочий" — прысвечаны Максіму Горкаму верш „Буравесніку рэвалюцыі", а часопіс „Полымя рэвалюцыі" — верш „Нашаму Янку Купалу".

Пасля інстытута накіраваны на працу выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў горад Чэрыкаў на Магілёўшчыне. У 1937 г. у разгар рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі арыштаваны НКВД, засуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапаваны ў сумнавядомы савецкі канцлагер на Беламорканал.

У 1939 г. Лявон Случанін нечакана датэрмінова вызвалены. Вярнуўся на радзіму ў вёску Лучнікі. Уладкаваўся ў Слуцку ў сярэднюю школу выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. З 1940 г. выкладаў у Слуцкім педтэхнікуме. У час нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы (1941-1943), школьным інспектарам на Случчыне (1943-1944). Адначасна працаваў у акруговай „Газэце Случчыны", друкаваўся ў „Беларускай газэце" (Мінск), „Голасе вёскі" (Мінск), „Раніцы" (Берлін) і часопісе „Новая дарога" (Беласток). Вершы, напісаныя ў 1942-1943 гг., апублікаваў у 1943 г. у калектыўным зборніку „Песняры Случчыны". Напісаў у 1944 г. гістарычную паэму „Рагнеда". Яна выйшла асобным выданнем у Вільні ў 1944 г., у 1958 г. — у Аўстраліі. У 1991 годзе яе змясцілі часопіс „Спадчына" (№ 4) і газета „Калийщик Солигорска". У аснове твора — гістарычныя факты, звязаныя з полацкім князем Рагвалодам і яго дачкой Рагнедай.

Лявон Случанін браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. Пры адступленні немцаў выехаў з сям'ёй у Германію. Працаваў карэспандэнтам у часопісе „Малады змагар", які выдаваў Саюз беларускай моладзі (1944-1945). Вясной 1945 г. трапіў у амерыканскую акупацыйную зону. У адрозненне ад большасці іншых беларускіх эмігрантаў вярнуўся ў родную вёску, дзе быў арыштаваны. Засуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на поўначы Савецкага Саюза. Потым тэрмін быў зменшаны да 10 гадоў зняволення. Пасля вызвалення да 1973 года жыў у Варкуце, пасля вярнуўся на радзіму і жыў у Салігорску.

З 1993 г. Лявон Случанін быў сябрам Саюзу пісьменнікаў Беларусі. Аўтабіяграфічны раман Случаніна ў вершах „Алесь Няміра", напісаны ў 1962-1985 гг., апублікаваны часткова ў 1991 г. Яго публікацыя была ў газеце „Калийщик Солигорска". Паэма „Ісус Хрыстос" не апублікаваная. Урывак з паэмы „Рагнеда" пэўны час быў уключаны ў школьную праграму.

Памёр Лявон Случанін 25 кастрычніка 1995 г. у Салігорску.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## У чым правінаваціўся?

Ад даўжэйшага часу хадайнічаю ў гміне аб сустрэчу з войтам. Безвынікова. 16 жніўня паслаў я спадару войту службовае пісьмо, у якім прасіў кіраўніка гміннага самаўрада назначыць магчымы тэрмін сустрэчы. А справа сур'ёзная і тычыцца хібаў у працы Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі, а канкрэтна якасці паслуг для сеніёраў з абмежаваннямі. Зараз я не ў змозе дабрацца ў гміну па прычыне хворых ног. Запэўніў аднак войта, што прыватна найму аўтамабіль ды прыеду на сустрэчу дзеля абмеркавання паталагічных з'яў. Хачу адзначыць, што такая сустрэча адбылася ў красавіку г.г. у маім доме. Тады спадар войт з кіраўніком ГАСД станоўча адгукнуліся на мой тэлефонны званок і я выявіў госцям, што «ляжыць у мяне на пячонцы». Лічыў я на сур'ёзны падыход субяседнікаў да праблемы. Памыліўся. Да сённяшняга дня заганы не ліквідаваны, адно я з'яднаў «ворагаў» у коле гмінных чыноўнікаў. Зараз лічуся «скандалістам». Абвінавачваюць мяне сам не ведаю ў чым. Так пачне гмінная змова маўчання. Так справа маецца ў сучаснай дэмакратычнай «дзяржаве права» — вераць менавіта чыноўніку, а не пакрыўджанаму. Хачу адзначыць, што сакратар гміны двойчы інфармавала мяне аб назначаным тэрміне сустрэчы з войтам, якая ў сапраўднасці не адбылася. Войт не паказаўся. Затым публічна пытаю паважанага войта: у чым я правінаваціўся? Я ж не злачынца, ані пракажоны. І карыстаюся належнымі грамадзянскімі правамі. А гмінных чыноўнікаў абавязвае Адміністрацыйны кодэкс, які назначае даць прасіцелю адказ на пісьмо ў тэрміне трыццаці дзён. Затым цярпліва чакаю адказу на пісьмо ад 16 жніўня 2019 года.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Электраманцёры зрабілі шкоду



26 верасня гэтага года ў вёску Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета прыехалі самаходам электраманцёры. Вядома, службова. Яны, між іншым, ссякалі галіны дрэў, якія даставалі да правадоў электраліній.

У адным выпадку здарылася так: уехалі на панадворак пастаяннай жыхаркі гэтага сяла, якой якраз не было дома (раніцай яе сын павёз матку да лекара). Электраманцёры ссяклі, між іншым, дзве верхавіны адной яблыні-ушчэпкі, на ёй адно адгалінаванне то была г. зв. папяроўка, а другое — аліўка. Верхавіны не дасягалі да заізаляванага электрапроваду.

Калі гаспадыня вярнулася дадому, убачыла пашкоджанае пладаноснае дрэва ды ў іншым месцы гурбу свежа ссечаных галін з лісцем, якія ляжалі пад плотам. Іх электрыкі сабралі з дарожкі і перакінулі на прыхатні панадворак цераз плот са штыкецін (частакол).

Што як што, але гэтак рабіць нельга. Электраманцёры зрабілі шкоду і вялікую прыкрасць жанчыне, якая жыве адзінока і на цэлы свой век прыкавана да калляскі. Гэтая жанчына то Вера Клімюк. Яна верная чытачка нашага беларускага штотыднёвіка „Ніва", братавая былога ніўскага карэспандэнта Уладзіміра Клімюка з Плянты.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




## Шыльда вісіць і маніць

На скрыжаванні вуліц Гайнаўскай і Агародавай у Нараўцы Гайнаўскага павета стаіць вялікі аднапавярховы драўляны дом з нумарам 48. На вугле яго знаходзіцца шыльда з надпісам „ART. SPOŻYWCZE". Яна вісіць тут ужо чацвёрты год і ніхто дагэтуль не падумаў, каб яе зняць. Справа ў тым, што ў гэтым будынку няма прадуктовай крамы, ён пусты. Шмат гадоў таму, як добра памятаю, быў ён сядзібай гміннай управы, бібліятэкі, кветкавага магазіна Івоны Езёрэк і розных крам, у тым ліку крамы з прадуктамі харчавання.

Навошта вісіць тая вялікая шыльда і зводзіць людзей у зман? Асабліва тых, хто прыязджае ў Нараўку здалёк ды ўсіх турыстаў айчынных і замежных. Гэтай справай павінен заняцца войт Нараўчанскай гміны. **(яц)**

## Сухія таполі



Сама менш сорак сухіх таполяў (як на здымку зробленым 28 верасня г.г.) стаіць паабапал гравійкі з Гарадзіска ў Плянту Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ніхто не збіраецца іх ссячы. Яны прыдаліся б на дровы на зіму, а тая не за гарамі, і прыйдзе раней ці пазней.

**Фота Янкі Целушэцкага**

## Адгаданка

**1.** Алесь, беларускі літаратар (1918-2013), **2.** дзяржаўны побач герба і гімна сімвал, у Польшчы бела-чырвоны, **3.** Міхола, арганізатар Фестывалю пяючай душы, **4.** гнойная пухліна на тканцы, **5.** установа Францыска Скарыны, Івана Фёдарава, братоў Мамонічаў, **6.** уваходнае памяшканне ў вясковай хаце, **7.** Віктар, беларускі музычны дзеяч (1921-2007), **8.** атрад для канваіравання, **9.** магутнае пушчанскае дрэва, **10.** Зоя, аўтарка зборніка вершаў „Пока".

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | | | |
| 3 | | | | 4 | | | | | |
| | | | | | | 5 | | | |
| | | 6 | | | | | | | |
| 7 | | | | | 8 | | 9 | 10 | |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**
Лунінец, стол, імя, студзень, Пінск, Пегас, сіла, Рыга, цырк, манета, школа.
Рашэнне: **Мінулагодні попел не іскрыць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

## 06.10 — 12.10

**(22.03. — 20.04.)** Удачліва. 5-9.10. будзь пунктуальны і пільнуй тэрмінаў, бо можаш многа страціць. Прыцягнеш карысныя нагоды. На працы памятай, што не мусіш мець апошняга слова. Працуй над формай. Не адкідвай 12.10. ніякага запрашэння.

**(21.04. — 21.05.)** 6-8.10 варта падвучвацца, схадзіць на курсы павышэння кваліфікацый. На працы паафармляй усе адкладзеныя справы, бо ад 11.10. можа табе не хапіць сілы і часу. Многа выклікаў ад лёсу, але пры невялікім высілку справішся з імі. З 9.10. будзеш раздражнены і схільны да неабдуманых рашэнняў. Цёпла апранайся і абавязкова надзявай шапку.

**(22.05. — 22.06.)** 6-8.10. падсунецца спакуса нелегальнага інтарэсу або «скоку ў бок». 8-12.10. увогуле можаш апынуцца ў нялёгкай сітуацыі. Венера пакажа табе праўду пра твае сямейныя ці кампанейскія сувязі. Прыклад кагосьці, каго выкарысталі ў кампаніі, паставіць цябе насцярожана да дружбы і любові. На працы кантроль для народжаных у першай дэкадзе. Лепш маўчы ў гэтых рэляцыях.

**(23.06. — 23.07.)** Добры настрой, незалежна ад нервовых сітуацый. Карыстайся нагодамі кампанейскіх сустрэч. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі. 6-8.10. ненайлепшы час на сустрэчы асабліва ў сям'і — спрэчка вісіць на валаску. З 12.10. вельмі дбай аб сваё здароўе і бяспеку. На працы вельмі карысны час на адважныя прафесійныя хады, вялікая інтуіцыя. Можаш нават дыктаваць свае ўмовы.

**(24.07. — 23.08.)** Прафесійныя выклікі. 5-9.10. з-за мноства абавязкаў можа табе не хапаць часу. 6-8.10. можа ў сям'і рэзка паказацца розніца ў характарах і поглядах, але ж умееце спрачацца ў культурны спосаб! 12.10. — уцягнуты будзеш у прыгоду, якую будзеш добра ўспамінаць. 11-12.10. можа ўсё перавярнуцца дагары нагамі ў пачуццях.

**(24.08. — 23.09.)** Каб узаемнае пачуццё працягвалася, знайдзі час хоць на адзін вечар у пары. Сапраўдных сяброў пазнаеш па тым, што не навязваюцца і не падлізваюцца. На працы не старайся паддабрацца. 6-8.10. паправіш умовы на рабоце з карысцю для ўсяго калектыву. Ва ўласным бізнесе найлепшая цярплівасць, каб не выбраць благога прыёму. 8-12.10. можаш трапіць на несумленнага супольніка, халтуршчыка. Рух абароніць цябе ад асенняй хандры.

**(24.09. — 23.10.)** Энергія, сіла. Падтрымка Сонца — вырашыш усе праблемы, твае рашэнні будуць правільныя. Дай другі шанц асобе, якая здалася табе несімпатычнай. На працы не ўваходзь у закулісныя гульні і сам не інтрыгуй. Калі шукаеш працу, не паддавайся, выкінуць дзвярыма — улазь праз акно. З 11.10 (да 15.10.) знакамітыя ўмовы для рэалізацыі планаў. У кастрычніку адкладвай грошы хоць пакрысе. Звяртай увагу нават на невялікія змены на скуры.

**(24.10. — 22.11.)** Добрыя лады з раднёй, калегамі, суседзямі. Можа здарыцца, што засумняваешся ў сабе самім. На шчасце — спрыяе табе Венера. У пары дацэніш тое, што табе даюць цяпер і тут. На працы не фарсіруй сваіх прапаноў, адчакай — многа спраў удасца па тваёй думцы, тым больш што прыцягнеш спрыяльных людзей, якія выручаць цябе ў цяжкіх справах. Нізкі ўзровень імунітэту; атачайся кветкамі. З 11.10. спакуса «скоку ў бок».

**(23.11. — 22.12.)** 8-12.10. праверка ў пачуццях; збудаваным на моцным падмурку нічога не пагражае. Не рабі рэвалюцыі дома і сярод сяброў. Можа, лепш пакінуць усё па-старому? Стральцы па цяжкай гісторыі ў пары схочуць адпачыць. На працы Меркурый глядзіць на цябе не вельмі прыхільна, можа падсунуць нядобрыя рашэнні, лепш будзь цяпер толькі выканаўцам планаў іншых. Твая работа і старанні будуць дацэнены. Не лячы сябе сам і не курыруй іншых.

**(23.12. — 20.01.)** Трэба будзе папрацаваць і змерыць свае сілы канкурэнцыяй. 5-9.10. можаш стаць аб'ектам чыёйсьці непрыязнасці ці забабонаў. 5-9.10. узмоцняцца адносіны ў тваёй пары. З 12.10. не бяры нічога ў крэдыт і не разлічвай на чужыя грошы. Жыві актыўней і весялей.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш энергічны. Але ў пары шыкуюцца спрэчкі. Дома парабі парадкі таксама сярод радні. На працы 6-8.10. будзе не адна нагода, каб паказаць сваю кемлівасць і ўмеласць да імправізацыі, што прынясе канкрэтныя вынікі. Лёгкасць у наладжванні кантактаў. З 11.10. (да 15.10.) здабудзеш тое, аб чым ты здаўна марыў.

**(20.02. — 21.03.)** Будуць цябе паважаць, кахаць і захапляцца табою. Удачы ў падарожжы, у размовах і на важных іспытах. Многа красы і сексапілю, флірты. Рыбы ў старых парах будуць падабацца адно аднаму як ніколі! Рыбы з другой дэкады будуць капрызнічаць з умовамі; барані вас Бог — не кідайце працы! З 12.10. (да 14.10.) некаторыя справы могуць спрабаваць уцячы з-пад вашага кантролю. Ніштo не адбываецца без прычыны!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Фарс-вадэвіль у адной дзеі ў Беластоку




Пісалі ў праграме варшаўскага тэатра «Рампа», які ставіць «Пінскую шляхту» з 2010 года: «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — пісьменнік, які зараз цалкам забыты ў Польшчы, хаця і лічыцца адным з айцоў беларускай літаратуры — напісаў «Пінскую шляхту» ў 1866 г. як фарс, які высмейваў тагачасную сацыяльную сітуацыю. П'еса адразу была забаронена царскай цэнзурай. Тэатр «Рампа» першы прадставіў гэтую п'есу ў польскім перакладзе Барбары Кжыжанскай-Чарнавескай — пра-праўнучкі пісьменніка. Спектаклем кіраваў выдатны рэжысёр, дырэктар Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску Мікалай Пінігін. Ён нанова ажывіў гэты забыты тэкст у вясёлай, вадэвільна-фарсавай форме. Камедыя пачынаецца з класічнай гісторыі пра закаханую пару, якіх бацькі абвінавачваюць адзін аднаго ў недахопе шляхецкага паходжання. Аднак гэта хутка ператвараецца ў камічны вір абсурдных падзей, калі, з намерам прымірыць бакі, судовы засядацель Кручкоў — чалавек напыхлівы, недавучаны, сквапны і хабарнік, хаця «брат шляхцюра», які пайшоў на царскую службу — персанаж, як бы выняты з камедыі Фрэдры. Гэтую ролю адыгрывае выдатны беларускі акцёр Віктар Манаеў, майстэрска дэманструючы абсурдныя механізмы, якія да сёння выкарыстоўваюцца ўладамі. Вялікая доза смеху і ўніклівае назіранне за духам пальшчызны — гарантаваная».

Віктар Манаеў у Беластоку фрагмент сваёй ролі — тут ён і за свата на вяселлі — выказаў па-польску. Пыталіся ў рэжысёра ў Варшаве: «Адкуль вы ўзялі такога польскага акцёра з такім цудоўным крэсовым акцэнтам?» А то ані акцэнт «крэсовы», ані «дух пальшчызны» ў гэтай фарсе.

Мінскі спектакль паказаны быў у Беластоку пры аншлагу ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў рамках фестывалю «Kierunek Wschód». Супрацоўніцтва паміж тэатрамі — Купалаўскім і «Вянгеркай» наладжана было яшчэ пры дырэкцыі Агнешкі Карыткоўскай. Пры новым дырэктары Паўле Пултораку плённае супрацоўніцтва працягваецца.

«Пінская шляхта» гэта гарэзлівая, смешная і, адначасова, вельмі пазнавальная гісторыя на тэму жыцця мясцовай беларускай шляхты. У ёй апавядаецца пра фанабэрыстых і пыхлівых дробных шляхцюкоў, якія па сваім матэрыяльным становішчы і ладзе жыцця не на шмат адрозніваюцца ад сялян. Але, нягледзячы на тое, яны для сябе лічаць найвялікшай абразай, калі іх хтосьці называе «мужыкамі». І пры ўсёй іх фанаберыстасці яны баяцца начальства, тых хто мае над імі ўладу. У сваёй п'есе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч высмейвае царскі суд, бюракратызм і хабарніцтва чыноўнікаў, якія самі ж і парушаюць усе магчымыя законы, якія яны прадстаўляюць, і выносяць абсурдныя прыгаворы. Дзеянне адбываецца ў ваколіцы О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета, дзе ўсе лічаць сябе шляхціцамі. Марыся кахае Грышку, сына Івана Ліпскага, яны хочуць прасіць бацькоў зладзіць вяселле. Марысін бацька Ціхон Пратасавіцкі супраць, бо яна «дзіця горкае». А пацешны старараты шляхцюра Харытон Куторга хоча бацькоў «адурманіць» — вызваўся на судзе сведчыць, што біў Ліпскі, а Пратасавіцкі абараняўся. А за гэта яму — Марысю. Іван Цюхай-Ліпскі падаў быў у суд, што Пратасавіцкі яго «адлупсаваў»; а Ліпскі назваў Пратасавіцкага «мужыком». Марыся кажа Куторгу, што яму «трэба перастаць думаць пра дзяўчат, а маліцца Богу, каб даў спасенне». І нашто ёй стары! А Куторга — што яе бацька даравaў руку за сведчанне на судзе. На разгляд справы прыязджае станавы прыстаў Кручкоў з пісарам Пісулькіным і падслухоўваюць размову Марысі з Куторгай. Усім назначаны штрафы і па 15-25 лоз на голай зямлі, хто біўся, хто не біўся, і хто «відзеў і не разняў». Кручкоў за хабар (прынеслі Грышка і Ціхон) адмяняе дэкрэт і гаворыць, каб памірыліся і пажанілі дзяцей. Усе згодны і п'юць за маладых — Грышку і Марысю. Напіўшыся, Кручкоў кажа Цімоху Альпенскаму, што Базыль Статкевіч казаў пра яго, што ён не шляхціч. А Статкевічу — што Альпенскі назваў яго мужыком. Уваходзіць Ліпскі і кажа Кручкову, што шляхта напілася і пачала біцца, трэба разняць. Кручкоў: «Няхай у суд падаюць, тагды прыеду...» Выходзяць з Пісулькіным. Усе (хто не б'ецца) крычаць: «Віват, найяснейшая карона!». І пакуль „найяснейшая карона" збірае судовыя падаткі і грazіцца катаргай за няўплату, над галовамі шляхцюкоў праплываюць цюкі з нарабаваным дабром. Сатыра на беларускую шляхту і царскіх чыноўнікаў праз паўтара веку гучыць не менш пераканаўча, чым у XIX стагоддзі. На сцэне пінская шляхта б'ецца паміж сабою, а амаль голыя падымаюць свае гербавыя сцягі. Сярод гэтых гербаў — Белы Лебедзь Дунін-Марцінкевіча, які па адукацыі быў юрыстам, а званне шляхціца адабралі яму царскія ўлады за ўдзел у Студзеньскім паўстанні. Пра механізмы ўлады ведаў добра: „Гдзе ўнадзіцца юрыста, вымеце хату дачыста, такіх дзіваў нагаворыць, так многа кручкоў натворыць, што, пачасаўшы затылак, не рассупоніш памылак. Не дасі, — цябе замучыць. Добра стара казка вучыць: дзярэ каза ў лесе лозу, воўк дзярэ ў лесе козу, а ваўка — мужык Іван, а Івана — ясны пан, пана ўжо дзярэ юрыста, а юрысту — д'яблаў трыста!»

Рэжысёр — Мікалай Пінігін, мастак-пастаноўшчык — Вольга Мацкевіч, кампазітар — Андрэй Зубрыч, харэограф — Людміла Фадзеева, пластыка — Павел Адамчыкаў. Выступілі акцёры: Марта Голубева, Міхал Зуй, Ігар Дзянісаў, Андрэй Дробыш, Дзмітры Ясяневіч, Аляксандр Зелянко, Аляксандр Казела, Іван Кушнярук, Віталь Макарэвіч, Віктар Манаеў, Вольга Няфёдава, Павел Астравух, Павел Паўлюць, Раман Падаляка, Аляксандр Падабед, Міхал Світа, Дзмітры Тумаш, Сяргей Чуб. Купалаўскі тэатр за п'есу атрымаў узнагароды: Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь (2013), Прэмію імя Івана Ушакова за найлепшую працу мастака-сцэнографа (Вольга Мацкевіч).

— Ці лёгка асучасніць такі стары тэкст?

— Мы новы спектакль паставілі ў 2008 годзе, — кажа рэжысёр Мікалай Пінігін. — У беларусаў ёсць самыя розныя самаідэнтыфікацыі. Шляхта забылася, што яна шляхта, што ў яе ёсць свае правы і законы яшчэ з Літоўскіх Сатутаў. Толькі калі шляхціцы былі зусім абарваныя пасля бойкі, амаль голыя, сталі ўставаць і даставаць свае шляхетныя гербы. Для нас гэта важная гісторыя, так як мы паставілі п'есу, каб людзі ўспомнілі сваю гісторыю. Не абалганую гісторыю, не гісторыю, якую нам выкладалі ў савецкія часы, а сапраўдную гісторыю, калі мы былі ў Рэчы Паспалітай, што гэта ліцьвінскія землі, і што Касцюшка паходзіў з гэтай зямлі, і Міцкевіч таксама.

Генеральны дырэктар тэатра Павел Лутушка:

— Мне падаецца вельмі важным, што вядучая тэатральная ўстанова нашай краіны сярод драматычных тэатраў, якія маюць статус нацыянальнага, прадстаўляе лепшыя ўзоры тэатральнага мастацтва, тут, на Беласточчыне, ва Усходняй Польшчы. Для нас гэта з'яўляецца важным таму што тут беларуская культура запатрабаваная. Яна важная перш за ўсё для беларусаў, беларускай этнічнай меншасці, якая пражывае ў Польшчы, таксама і для польскай грамадскасці, якая неабыякавая, якая зацікаўлена беларускай культурай. Мы — суседзі, мы павінны развіваць нашы адносіны. Культура з'яўляецца тым фактарам, які ўмацоўвае гэтыя адносіны, стварае добрыя іміджавыя сітуацыі, стварае добрыя магчымасці стварыць кантакты — і ў іншых сферах, у тым ліку эканамічных і палітычных. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з'яўляецца сапраўды лідарам у тэатральным руху Беларусі, і мы плануем пашыраць вядомасць пра наш тэатр па-за межамі Беларусі; лепш сказаць — пра сучасны стан беларускай драматургіі, пра п'есы, якія выйшлі ў апошнія гады на сцэне Купалаўскага тэатра. «Пінская шляхта» ўжо фактычна класіка, гэты спектакль ідзе больш за дзесяць гадоў. Але ў нашым рэпертуары ёсць новыя пастаноўкі і сучасных беларускіх драматургаў, напрыклад, «Радзіво Прудок» Андруся Горвата, якое ідзе на камернай сцэне, ён вельмі папулярны. Мы праводзім перамовы з Нацыянальным тэатрам у Варшаве, Драматычным тэатрам, Тэатрам «Рампа», і Польскім тэатрам у Варшаве, таксама люблінскім тэатрам. Гэта кола патэнцыянальна зацікаўленых сцэнамі нашага тэатра — галоўнай і камернай. Калі мы будзем будаваць адносіны ў рамках культуры, мы будзем будаваць добрыя адносіны паміж краінамі.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

ISSN 0546-1960 40